№ 40 (829) 30 кастрычніка 2013

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Аднаўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

# Палацы самых багатых беларусаў

Дзе жывуць беларускія мільянеры — фота.

Старонка 6.

«Мы знойдзем, як закруціць гайкі». Новы трэнер БАТЭ

Старонка 15.

«Заўсёды думаю пра чырвоную дарожку». Гутарка з Андрэем Кудзіненкам.

Старонка 9.

## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Турыстычны комплекс Юрыя Чыжа будуюць... вайскоўцы

**Наняць салдат** можа любы прыватнік?

Бізнэсмэн Юрый Чыж будуе ў сваёй роднай вёсцы Сабалі, што пад Бярозай, вялікі турыстычны комплекс. Гатэль, музей, рэстаран, лыжная траса, канюшні, ферма па вытворчасці мармуровага мяса... Загадаў яму гэта зрабіць Аляксандр Лукашэнка. Кіраўнік дзяржавы летась падпісаў указ «Аб умовах стварэння турыстычнага культурна-этнаграфічнага комплекса «Наш родны кут Сабалі».

Агулам комплекс займае ўчастак у 333,4 га каля трасы М1. А На будаўніцтва амбітнага праекта «Трайпл» меўся выдаткаваць $15 мільёнаў, адкрыццё запланаванае на 2015.

Мясцовыя жыхары заўважылі на будаўнічай пляцоўцы салдат са Слуцкай вайсковай транспартнай часткі № 18-662. Як так: вайскоўцы ўтрымліваюцца за кошт бюджэту. А потым за «нашыя» грошы працуюць на прыватныя фірмы? Ды яшчэ і катаюцца ад часткі да месца «працы» па 200 км

Як высветлілася, паміж «Трайплам» і дэпартаментам транспартнага забеспячэння Міністэрства абароны была заключана дамова падраду. Паводле яе, шэсцьдзясят салдат тэрміновай службы рыхтавалі пляцоўку да будаўніцтва — чысцілі лес.

Мы спыталі ў дырэктара адной з мінскіх юрыдычных кансультацый, ці дазваляе закон вайскоўцам працаваць на прыватных фірмах. На яго думку, фармальна нічога супрацьпраўнага тут няма. Гаспадарчай дзейнасцю займаюцца ўсе вайсковыя часткі. Паводле ўказу, вайсковыя фарміраванні, у тым ліку транспартныя войскі, могуць выконваць работы ці аказваць паслугі на платнай аснове, калі гэта не супярэчыць іх статутным мэтам. Заробленыя грошы застаюцца ў іх распараджэнні.

Такое ж меркаванне і ў юрыста Андрэя Паротнікава. «Дэпартамент транспартнага забеспячэння як юрыдычная асоба мае права заключаць камерцыйныя дамовы. Паводле Канстытуцыі, формы ўласнасці роўныя, таму няма розніцы, хто з'яўляецца контрагентам: прыватнік ці дзяржаўная кантора», — тлумачыць ён.

Ёсць і пералік таго, што вайскоўцы могуць рабіць за грошы. У яго ўваходзяць больш за два дзясяткі работ: земляныя, будаўнічыя, работы па аздабленні памяшканняў (пакрыццё падлогі, абліцоўка сцен), электрамантажныя, пракат бытавых вырабаў і прадметаў асабістага карыстання, дзейнасць грузавога транспарта, вытворчасць стальных канструкцый, здача другасных рэсурсаў і каштоўных металаў ды іншыя работы.

Таму, калі будзеце рабіць рамонт, паспрабуйце паклікаць на працу вайскоўцаў. Можа, як і Юрый Чыж, атрымаеце ўзвод салдат.

**Аксана Рудовіч**


Ягор Марціновіч

**Родную хату Чыжа ў Сабалях зробяць музеем?**

# Палацы самых багатых беларусаў

Якія катэджы пабудавалі сабе **беларускія мільянеры**?

У адрозненне ад сваіх калег з суседніх краін, беларускія мільянеры не выстаўляюць сваё жыццё напаказ. Што носяць, на чым ездзяць, дзе жывуць? Зразумела ж, што не ў аднапакаёўцы ў спальным раёне...

Карэспандэнты «Нашай Нівы» аб'ехалі катэджавыя пасёлкі вакол Мінска і сфатаграфавалі дамы самых паспяховых бізнэсмэнаў. Мы папрасілі архітэктара Аляксандру Баярыну ацаніць іх выгляд з прафесійнага пункту гледжання. «За выняткам некалькіх катэджаў, перад намі ўзоры архітэктуры нізкіх эстэтычных якасцяў. Гэты шэраг стварае нейкі дзіўны эфект, — кажа яна. — Найноўшыя тэхналогіі, планіроўка падвышанай камфортнасці, шыкоўны інтэр'ер... А сам дом — зусім звычайны, патрапаны часам, танны на выгляд, непрыемны. Нонсэнс!» Архітэктар пагадзілася пракаментаваць кожны з катэджаў — ягоныя моцныя і слабыя бакі.

Спрабавалі звярнуцца і да рыэлтараў, каб тыя назвалі прыблізны кошт збудаванняў. Аднак адразу ў некалькіх агенцтвах нерухомасці пачулі адмову. «Я ў вашай піяр-акцыі ўдзельнічаць не буду! — патлумачыў сваю пазіцыю дырэктар аднаго з іх. — Да людзей на заўтра прыйдуць з дэпартамента фінансавых расследаванняў і з аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю. Тым больш іх катэджы рэгіструюцца на трэціх асобаў, вы нічога не дакажаце».

Насамрэч беларускія мільянеры не такія сарамлівыя. Нерухомасць яны найчасцей запісваюць на сябе ці жонак. Інфармацыя пра ўласнікаў элітных катэджаў атрыманая легальна, з адкрытых крыніц.

**Працяг на старонцы 6.**

## Сціслa

**Заробкі пачалі змяншацца**

Упершыню за апошні год Белстат зафіксаваў змяншэнне сярэдняга заробку. У верасні ён склаў $518 пасля сплаты падаткаў, а яшчэ ў жніўні дасягаў гістарычнага максімума — $541.

**Беларусь на 63-м месцы па ўмовах працы бізнэсу**

У новым спісе Doing Business Беларусь узнялася на адну пазіцыю. Рэйтынг ацэньвае, наколькі ў краіне лёгка весці бізнэс. Беларусь мае на мэце трапіць у першую трыццатку. Суседнія Расія (92) і Украіна (112) знаходзяцца значна ніжэй, а Літва (17), Эстонія (22), Латвія (24) — вышэй.

**Беларусаў усё больш**

За верасень насельніцтва краіны павялічылася на 1100 чалавек, перадусім за кошт мігрантаў. У Беларусі жыве 9 465 500 чалавек.

**2015 можа стаць Годам моладзі**

Аляксандр Лукашэнка выказаў прапанову, як назваць наступны год. Нагадаем, сёлета ў Беларусі «Год беражлівасці», а летась быў «Год кнігі».

**«Белавія» акцыянуюць**

Прадпрыемства рыхтуецца да прыходу замежнага інвестара. Мяркуецца, гэта дасць новы штуршок для развіцця авіякампаніі.

**ЯМ**

## Апытанне на nn.by

**Вам падабаецца архітэктура новай рэзідэнцыі Аляксандра Лукашэнкі «Палац Незалежнасці»?**

| | | |
|---|---|---|
| так | 111 | 8% |
| не | 764 | 52% |
| я як падумаю, колькі нам гэта каштавала... | 596 | 41% |

Прагаласавала 1471

## Рэкамендуем

**Аляксандр Лукашук знішчальна крытыкуе кнігу Алексіевіч**

Рэцэнзія на «Час сэканд-хэнд»

Чытайце на nn.by

## Самае чытанае на nn.by з 23 да 29 кастрычніка

1 Ракурсы: нерэтушаваныя фоты Аляксандра Лукашэнкі з саміта СНД
2 Севярынец: Я не зайздрошчу Лукашэнку
3 Уладзімір Пуцін публічна падкалоў Аляксандра Лукашэнку — відэа
4 Саміт Мытнага саюза ў Мінску нагадваў сустрэчу рака, лебедзя і шчупака
5 Аляксандр Лукашук знішчальна крытыкуе кнігу Алексіевіч
6 Туркменскія студэнты ладзяць у Віцебску закрытую вечарынку з «рускімі дзяўчатамі»
7 Лукашэнка, Пуцін і Назарбаеў танцуюць невядомы танец
8 Эксперымент: ці ратуе флікер у цемры
9 Фотафакт: Лукашэнка з сынамі пасадзіў елку каля Палаца Незалежнасці
10 McDonald's адмаўляецца ад кетчупаў Heinz

# Інтэграцыя прытарможваецца

На мінулым тыдні ў Мінску прайшла сустрэча Найвышэйшай **Еўразійскай эканамічнай рады** і саміт СНД.

Да такіх падзеяў адчынілі новы Палац Незалежнасці. А Лукашэнка разам з трыма сынамі пасадзіў елку.

Цікава, што Палац аздобілі карцінамі на беларускія традыцыйныя сюжэты «Каляды», «Купалле», «Багач».

Што тычыцца самой сустрэчы «тройкі», то на ёй з крытыкай выступіў прэзідэнт Казахстана Нурсултан Назарбаеў. Ён заклікаў распусціць Еўразійскую эканамічную камісію.

«Нягледзячы на тое, што Назарбаеў — гэта аўтарытарны кіраўнік, у Казахстане існуе ліберальная эканоміка. І ў краіне вялікая апазіцыя Мытнаму саюзу з боку сярэдняга бізнэсу, — кажа палітычны аглядальнік Раман Якаўлеўскі. — У Казахстан павялічыўся імпарт з Расіі, эканоміка нясе страты. Па-другое, Казахстан хоча атрымаць доступ да расійскіх трубаправодаў».

Існуе меркаванне, што Лукашэнка і Назарбаеў маглі ўтварыць сітуатыўны альянс, каб супрацьстаяць больш магутнай Расіі ўнутры Мытнага саюза. Маўляў, пра гэта кіраўнікі маглі дамаўляцца на нядаўняй сустрэчы ў Астане. «Гэта несур'ёзна. Назарбаеў не дазволіць сабе гульні з такой асобай як Лукашэнка. Дарэчы, заўважыў, што Лукашэнка толькі з нядаўняга часу стаў звяртацца да Назарбаева на «вы». Тыканне старэйшаму чалавеку на Ўсходзе ўспрымалася вельмі негатыўна», — працягвае Якаўлеўскі.

Таксама Назарбаеў у Мінску выступіў з заявай з лёгкім налётам сенсацыйнасці. Маўляў, да Мытнага саюза гатовая далучыцца Турцыя. Пуцін на гэта ці то жартам, ці то ўсур'ёз зазначыў: «І Індыя таксама».

«Ніхто не звярнуў увагу на адзін момант. Зусім нядаўна ў Турцыі адзначылі 50-годдзе падпісання з Еўрасаюзам дамовы аб асацыяцыі. Тое самае, што цяпер будзе падпісваць Украіна. Калі Пуцін кажа, што Украіна не можа адначасова знаходзіцца і там, і там, то як можа Турцыя? У турэцкай прэсе таксама напісалі, што ніякага запрашэння ў Мытны саюз краіна не атрымлівала», — кажа аглядальнік.

Што тычыцца Беларусі, то яна працягвае настойваць на роўнадаходных цэнах на энерганосьбіты. Дамовіцца зноў не атрымалася. Для Беларусі гэта асноўнае пытанне, бо эканоміка краіны якраз і трымаецца ў вялікай ступені за кошт расійскіх энерганосьбітаў.


REUTERS
Газета «Камерсант» жартавала, што сустракаючы гасцей, Лукашэнка абдымаўся крыху больш, чым тое патрэбна.

«Калі Расея ўступіла ў Сусветную гандлёвую арганізацыю, то атрымала невялікую адтэрміноўку ў пытанні ўніфікацыі цэнаў унутранага рынку з сусветным. Але перайсці ўсё адно давядзецца. Лукашэнка просіць унутрырасейскіх цэнаў, а на справе можа аказацца, што гэтыя цэны падымуцца да сусветных», — кажа Якаўлеўскі.

Пуцін працягвае прыспешваць стварэння Еўразійскага саюза, але пры вялікай колькасці супярэчанняў гэта не вельмі атрымліваецца. «Пакуль што воз ідзе паперадзе кабылы», — вобразна зазначыў палітолаг Дзяніс Мельянцоў.

Што тычыцца саміта СНД, то сённяшні стан арганізацыі «ні жывы ні мёртвы», выглядае, задавальняе ўсіх. СНД існуе як пляцоўка для абмену інфармацыі, абмеркавання.

Лукашэнка заклікаў Грузію вярнуцца назад у СНД. «Гэта асабістая ініцыятыва кіраўніка Беларусі. Яна бессэнсоўная. Грузія мае добрыя двухбаковыя кантакты з большасцю краін СНД. Вяртацца ёй няма сэнсу. Тым больш Грузія ясна засведчыла свой шлях да ўступлення ў Еўрасаюз».

Старшыняваць у СНД на наступны год будзе Украіна, якая дэ-юрэ нават не з'ўляецца членам гэтай арганізацыі. Тое самае было летась з Туркменістанам, які з'ўляецца толькі асацыятыўным членам СНД.

Некаторыя кажуць, што ўдзел Беларусі і Казахстана ў постсавецкай інтэграцыі абумоўлены эканомікай, тады як Расіі — палітыкай. «У Беларусі немагчыма размяжоўваць палітыку і эканоміку. Усё палітыка. Таму ўдзел Лукашэнкі ў пуцінскім праекце — гэта чыстая палітыка, — перакананы Раман Якаўлеўскі. — Трывога Пуціна аб будучыні еўразійскай інтэграцыі павялічваецца, цяжкасці нарастаюць. Невядома, якія сюрпрызы могуць падкінуць і Казахстан, і тым больш Беларусь».

**Зміцер Панкавец**

**Апытанне на nn.by**

**Ці трэба Беларусі заставацца ў СНД?**

| | | |
|---|---|---|
| так | 41 | 6% |
| не | 515 | 76% |
| так, але не дапускаючы ўцягвання ў шчыльнейшыя саюзы | 126 | 18% |

Усяго прагаласавала 682.

**Фотафакт**


СЯРГЕЙ ЗІНІН

**44-гадовы Георгій Маргвелашвілі стаў чацвёртым прэзідэнтам Грузіі. Ён філёсаф па адукацыі, былы міністр адукацыі і навукі. Нежанаты, але мае дачку. Маргвелашвілі перамог у першым туры, яго падтрымала больш за 62% выбарцаў. Маргвелашвілі — чалавек прэм'ер-міністра Бідзіны Іванішвілі. Прэзідэнт у Грузіі ад нядаўняга часу — пасада фармальная. Улада знаходзіцца ў руках прэм'ера.**

## 13 беларускіх чыноўнікаў і 5 прадпрыемстваў выключаць з «чорнага спіса»

Рада Еўрасаюза плануе працягнуць дзеянне санкцый у дачыненні да Беларусі да 31 кастрычніка 2014 года.

Пра гэта паведаміла кіраўнік прадстаўніцтва ЕС у Мінску Майра Мора, выступаючы 29 кастрычніка на міжнароднай канферэнцыі «Стратэгіі будучай палітыкі ЕС у дачыненні да Беларусі» ў Вільні.

Паводле слоў дыпламата, у спіс будуць дададзеныя тры новыя прозвішчы.

Пры гэтым рада вырашыла, што «больш няма прычын для знаходжання ў спісе 13 чалавек і пяці прадпрыемстваў». Аднак Мора не стала ўдакладняць, каго менавіта дададуць і выключаць са спісу.

«Хацела б дакладна акрэсліць, што гэтае рашэнне (пра адмену санкцый супраць шэрагу асоб) не азначае змены палітыкі ЕС у дачыненні да Беларусі. ЕС працягне палітыку крытычнага ўзаемадзеяння з краінай», — сказала Мора

Нагадаем, пад візавыя і эканамічныя санкцыі ЕС трапляюць 243 беларускія чыноўнікі, у тым ліку Аляксандр Лукашэнка.

Майра Мора таксама адзначыла, што Еўрасаюз працягне аказваць падтрымку беларускаму народу. «За апошнія два гады ЕС узмацніў падтрымку беларускай грамадзянскай супольнасці і беларускага народа ў цэлым, — сказала яна. — Еўрасаюз узмоцніць дыялог з грамадзянскай супольнасцю, у тым ліку і праз праграму «Еўрапейскі дыялог для Беларусі». Яна патэнцыяльна можа стаць каналам зносін як з беларускім грамадствам, так і з уладамі».

Паводле слоў Моры, выклікае шкадаванне той факт, што ўжо на працягу двух апошніх гадоў беларускія ўлады так і не далі станоўчага адказу на прапанову ЕС пачаць перамовы па пагадненні аб спрашчэнні візавага рэжыму.

Мора заявіла, што на саміце Усходняга партнёрства, які пройдзе 28—29 лістапада ў Вільні, «будзе дамінаваць Украіна» ў сувязі з тым, што на мерапрыемстве плануецца падпісаць пагадненне аб асацыяцыі паміж Украінай і ЕС. «Я спадзяюся, што праз два гады на саміце ў маёй роднай Рызе дамінаваць будзе Беларусь», — сказала яна.

**БелаПАН**

**Сцісла**

**Баўмгертнера пакінулі яшчэ на два месцы**

Справа супраць генеральнага дырэктара «Уралкалія» Уладзіслава Баўмгертнера працягнута на 2 месяцы. Цяпер менеджар сядзіць пад хатнім арыштам у Мінску.

**Нунцый сустрэўся з Лазарам**

25 кастрычніка Клаўдыё Гуджэроці меў сустрэчу ў ізалятары КДБ з арыштаваным ксяндзом Уладзіславам Лазарам. Сустрэча доўжылася гадзіну, праходзіла ў прысутнасці перакладчыка з МЗС. Гуджэроці перадаў Лазару ружанец ад Папы.

**Памёр Тадэвуш Мазавецкі**

Першаму кіраўніку посткамуністычнай Польшчы было 86 гадоў. Ён упісаў сваё імя ў гісторыю Польшчы назаўжды і змяніў гісторыю Еўропы, напісала пра Мазавецкага Wyborcza.

**Выбары ў Чэхіі: Перамаглі сацыял-дэмакраты**

Яны набралі 20% галасоў, што дае таксама 50 з 200 месцаў у парламенце. Другое месца заняла партыя ANO-2011 мільярдэраспевака Андрэя Бабіша. А на трэцім — камуністы (15%).

**ЗП**

# Праваабаронцы ўдасканалілі тэрмін «палітзняволены»

На выхадных у Вільні прайшоў III Беларускі праваабарончы форум. У ім узялі ўдзел больш за паўтары сотні дэлегатаў з 25 арганізацыяў.

Гэта значыць на сёння мы маем столькі (вялізная лічба!) арганізацый, што абараняюць грамадзян ад свавольстваў дзяржавы. У СССР столькі не было.

Асобнае месца было сімвалічна зарэзервавана для кіраўніка праваабарончага цэнтра «Вясна» Алеся Бяляцкага, вітальнае слова якога падчас уступнай часткі зачытала Таццяна Равяка. Бяляцкі трэці год знаходзіцца ў зняволенні.

Мерапрыемства пачалося з выступу Карыма Лахіджы, прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека (FIDH). Ён падкрэсліў, што сусветныя арганізацыі ў курсе стану правоў чалавека ў Беларусі і яны імкнуцца гутарыць пра гэта на ўсіх магчымых платформах. «Але мы добра ведаем, што ёсць рэчы, якія мы зрабіць не можам»—адзначыў спадар Лахіджы.

Адным з самых важных момантаў форуму было выданне даведніка па азначэнні паняцця «палітычны зняволены». Ён уяўляе сабой дакумент з трох частак, у якім падрабязна апісана, што маецца на ўвазе пад «пазбаўленнем свабоды», «палітычнымі матывамі», а ўсе асобы, пазбаўленыя волі праз сваю грамадскую дзейнасць, падзяляюцца на дзве катэгорыі.

У першую ўваходзяць тыя, каго прынята называць «вязні сумлення», то бок гэта асобы, дзейнасць якіх з'яўляецца легітымнай па сваім характары і не можа з'яўляцца правапарушэннем у дэмакратычным грамадстве. У прыватнасці, гэта мірны пратэст і грамадзянскі супраціў, які не прыводзіць да грубых парушэнняў правоў іншых асоб. Для гэтых вязняў праваабаронцы патрабуюць безумоўнага і тэрміновага вызвалення.

Другая катэгорыя —гэта асобы, якіх дзяржава пераследуе па палітычных матывах. У гэтым выпадку праваабаронцы лічаць неабходным дэтальны перагляд кожнай канкрэтнай справы. Трэба адзначыць, што чалавека прызнаюць палітзняволеным толькі ў тым выпадку, калі ён ці яна фізічна пазбаўленыя свабоды.

Таксама ў дакуменце пазначана, што чалавек, які здзейсніў гвалт альбо злачынства на падставе нянавісці, не можа лічыцца палітвязнем.

У выніку форума была таксама падпісана рэзалюцыя «Аб становішчы з правамі чалавека ў Беларусі», з ёй плануецца звярнуцца да саміту Усходняга партнёрства, які на днях пройдзе ў Вільні. Дакумент мае 8 пазіцый, у якіх ад уладаў краіны патрабуецца вызваліць палітычных вязняў, абвясціць мараторый на выкананне смяротных прысудаў, пабудаваць нацыянальныя інстытуты абароны правоў чалавека на дзяржаўным узроўні, аднавіць сістэму незалежнага ад выканаўчай улады суда і незалежнай пракуратуры.

**Наста Храловіч, Вільня — Мінск**




НАСТА ХРАЛОВІЧ

За Алесем Бяляцкім зарэзервавалі асобнае крэсла.

## Як шматдзетная сям'я жыллё ў Капылі будуе

Сям'я з чатырма дзецьмі **пайшла на канфлікт** з раённым начальствам, каб атрымаць гарантаваныя льготы.

Гэта гісторыя пра тое, як усё можна страціць, калі дамагаешся свайго. Шматдзетная сям'я Петрачэнкаў з Капыля спрабавала пабудаваць кватэру па льготным крэдыце, як абяцае дзяржава, а ў выніку так і засталася без свайго кута. А адзінага кармільца яшчэ і звальняюць з працы.

Міхаіл Петрачэнка напісаў дзясяткі зваротаў, не меншую колькасць разоў пабываў на прыёмах у кабінетах чыноўнікаў. міністраў Шчоткінай, Зайца, Вашчанкі, Шуневіча, Рады бяспекі, Адміністрацыі прэзідэнта, Генеральнай пракуратура... Можна было б палічыць мужчыну прафесійным скаржнікам. Але вялікая цана пастаўлена на кон — дабрабыт чатырох непаўналетніх дзяцей.

Міхаіл і Святлана ажаніліся трынаццаць гадоў таму. Яна — настаўніца, ён — кіроўца ў пажарнай часці. У сям'і нарадзіліся дзеткі. Сёння Арцёму 12 гадоў, Віцы — 8, двайнятам Вераніцы і Антону — па 2.

У сакавіку 2011 яны сталі ў чаргу на паляпшэнне жыллёвых умоў. Да гэтага не сказаць, што было лёгка, але стала яшчэ горш. Прайшлі два з паловай года, а сям'я так і не можа вырашыць жыллёвае пытанне. Яно зразумела, у законах усё прапісана, як мусіць быць у ідэале. Але на справе атрымліваецца зусім па-іншаму.

Сям'ю паставілі ў чаргу па двух спісах: агульным і шматдзетным. А ўжо 29 ліпеня прапанавалі будаваць адну альбо дзве двухпакаёўкі — на выбар. Паколькі адна кватэра не паляпшала б умовы, сям'я спынілася на дзвюх. Хоць пры гэтым і трэба было са сваёй кішэні аплочваць «лішнія» метры.

Але як прапанавалі, так і адклікалі назад. Маўляў, першай пагадзілася іншая сям'я, таксама шматдзетная, але ў чарзе яна стаяла вышэй. Прапанавалі, як аказалася, не адным Петрачэнкам.

Міхаіл пачаў скардзіцца. Прасіў праверыць рашэнні чыноўнікаў. Сумняваўся, што кватэры перадаваліся тым, хто меў патрэбу. Ды тая шматдзетная сям'я ўзялася будаваць адну двухпакаёўку. А каму дасталася другая? «Усё законна» было адказам з правяраючых органаў.

Капыль — горад невялікі. І новага жылля будуецца не так шмат. Але ў наступным доме сям'і зноў прапанавалі адну альбо дзве двухпакаёўкі: акурат два чалавекі выйшлі з кааператыва. І тут за лішнія метры трэба было даплачваць самім. За 37,88 км. м налічылі 214 мільёнаў 293011 тысяч (па тагачасным курсе — 25 тысяч даляраў).

Для сям'і, у якой чацвёра непаўналетніх дзяцей, а гаспадыня знаходзіцца ў дэкрэце, сума фантастычная. Але вырашылі пагаджацца на будаўніцтва — меркавалі, што грошы знойдуцца. Бо іншай магчымасці займець свой кут, можа, і не надарыцца.

Банк выдзеліў ільготны крэдыт — на 40 гадоў пад 1 працэнт. Але грошай на аплату «лішніх» метраў так і не адшукалі: хаця ўсёткі частку сумы заплацілі самі. І куды толькі сям'я ў гэты час не звярталася, каб дапамаглі. Усё ўпустую. У выніку праз запазычанасць сям'ю выключылі з кааператыва.

А банк каторы месяц патрабуе вярнуць грошы. Толькі Міхаіл не пагаджаецца перааформіць дакументы на вяртанне крэдыту (ён адкрыты непасрэдна пад будаўніцтва і скарыстацца па-іншаму ім нельга). Чапляецца за любую нітачку, каб на яго праблему звярнулі ўвагу.

У дадатак у верасні Петрачэнка атрымаў паведамленне, што па заканчэнні кантракта, у студзені, ён застанецца без працы. Як сам лічыць, праз свае скаргі трапіў у няміласць да начальства. Пятнаццаць гадоў адпрацаваў у пажарнай службе кіроўцам, а цяпер стаў непатрэбным.

Сям'я магла купіць кватэру на другасным рынку жылля, пабудаваць дом — як гарантуе закон. Па словах жа Міхаіла, думалі і пра гэта. Толькі банк крэдытуе па ацэначным кошце кватэры на другасным рынку, але рэальная цана большая — і тут даплочваць няма з якой кішэні.

Што рабіць далей, гаспадар сямейства не ведае. Цяпер яго прытуліў брат — жывуць у вясковым дамку. Але гэта не выхад. А ўся гэтая цяганіна зрабіла Міхаіла недаверлівым, і на кожную сустрэчу з чыноўнікам ён ходзіць толькі з дыктафонам. «Каб пасля даказаць, што я нармальны чалавек, нікога не абражаю».

**Сяргей Макарэвіч**



ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ

**Фотафакт**

### З'езд «Маладога фронту»

55 дэлегатаў прынялі ўдзел у VIII з'ездзе зарэгістраванага ў Чэхіі «Маладога фронту». Было шмат спрэчак і дыскусій. Аднак галоўнае, што ніхто не абвясціў аб выхадзе з арганізацыі. Кіраваць «МФ» цяпер будуць тры сустаршыні. Гэта былы палітвязень Зміцер Дашкевіч, сённяшні палітзняволены Эдуард Лобаў, а таксама гамяльчук Андрусь Цянюта.

Дэлегаты заклікалі беларускія ўлады выпусціць з турмаў усіх палітвязняў. Таксама ўдзельнікі з'езда мяркуюць, што Беларусь не варта запрашаць на саміт Усходняга партнёрства ў Вільню. «Малады фронт» быў заснаваны ў 1997 г. як моладзевае крыло патрыятычнага руху БНФ. Праз яго прайшлі некалькі тысяч маладых людзей.

# У п'яных за рулём пачалі забіраць аўтамабілі

З'явіліся **першыя прэтэндэнты на канфіскацыю** машын.

24 кастрычніка ўступілі ў сілу дапаўненні і змяненні ў Крымінальны кодэкс Беларусі. Галоўная навінка — стала магчымай канфіскацыя аўтамабіляў у кіроўцаў, якія двойчы за год трапіліся за рулём п'янымі. Першыя «ластаўкі» не прымусілі сябе доўга чакаць: на мінулых выхадных такіх гора-кіроўцаў злавілі ў Брэсце, Мінску і Гродне.

З ростам колькасці ўласнікаў аўтамабіляў п'яныя за рулём сталі сапраўднай бядой для Беларусі. Машыны сталі даступнымі па цане для людзей самых розных звычак. А паскарэнне рытму жыцця ў краіне прывяло да таго, што людзі сядаюць за стырно ў кожным разе.

Між тым у п'яных зніжаецца рэакцыя і адэкватнасць. У выніку гінуць або робяцца інвалідамі людзі, у тым ліку дзеці. Гэта і выклікала неабходнасць прыняцця стражэйшых караў за выпіўку.

Прычым ДАІ будзе адлічваць перыяд ужывання санкцый з 1 студзеня 2013 года.

Аднак знаходзяцца і тыя, хто новыя нормы крытыкуе.

Юрыст і заснавальнік сайта stop-gai.by Аляксандр Старычэнка бачыць пэўныя хібы ў новай сістэме ўжо цяпер. «Цікавая сітуацыя: канфіскоўваць ужо пачалі. Хоць мы ведаем, што закон зваротнай сілы [распаўсюджванне на тыя выпадкі, якія мелі месца да ўступлення закона ў сілу — НН] не мае. Але ў дадзеным выпадку пачалі інтэрвал патраплення п'яным за рулём — з 25 кастрычніка 2012. Калі 23 кастрычніка 2013 закон яшчэ не працаваў, то чаму да гэтай даты ўжо залічылі?»

Адметна, што канфіскоўваць будуць аўтамабіль, нават калі ён належыць іншаму чалавеку. Далі вы сваяку сваё нявовае «Рэно» забраць жонку з радзільні. А той выпіў па дарозе за здароўе дзіцяці. Яго спыніла ДАІ. І аказваецца, што сваяк ужо пазбаўлены правоў за п'янку. Не ведалі — ваша праблема.

Хаця выключэнне ў законе ўсё-такі ёсць: не канфіскуюць аўто, калі яго скралі, альбо аўто, «якое выбыла з законнага валодання ўладальніка не па яго волі» — сын узяў ключы ад машыны бацькоў, а тыя і не ведалі. У Гродне, між іншым, усё прыкладна так і магло атрымацца. 23-гадовы хлопец выпіваў у кампаніі. А дадому вырашыў ехаць на сяброўскім аўто. Нават не самога сябра, а яго нага бацькі. Прыяцель, дарэчы, сядзеў побач. Калі ДАІшнікі спынілі аўтамабіль, у кіроўцы ў крыві было 1,61 праміле алкаголю. Выявілася, што яго ў верасні ўжо злавілі за кіраванне нападпітку. Гарадзенца цяпер будуць судзіць, а аўто, хоць яно і чужое, падлягае канфіскацыі.

«Тут трэба выбіраць: альбо ў вас забіраюць аўтамабіль, альбо пішаце заяву аб угоне, — кажа Аляксандр Старычэнка.

**Сяргей Макарэвіч**



**Давялося страляць па колах**

27 кастрычніка пагоня ДАІ за парушальнікам скончылася стральбой. Уначы ў Мінску паспрабавалі спыніць «БМВ». Падчас пагоні аўтамабіль некалькі разоў ледзь не трапіў у аварыю, а спыніўся толькі пасля таго, як лопнула кола: падстрэліць яго міліцыянты не здолелі. Але і тады кіроўца паспрабаваў збегчы. Калі і гэта не ўдалося, пачаў адбівацца. Аказалася, што 28-гадовы кіроўца быў пазбаўлены правоў, а п'яным за рулём трапіўся пяты раз. У крыві было 1,44 праміле алкаголю.

**Павялічылі штрафы і адседку**

З 24 кастрычніка павялічваюцца штрафы за парушэнні бяспекі і эксплуатацыі транспарту — да 13 мільёнаў рублёў, за кіраванне ў нецвярозым стане — ад 6,5 да 13 мільёнаў, такую ж суму давядзецца заплаціць, калі кіроўца трапіць у аварыю і захоча адразу зняць стрэс бутэлечкай піва ці чаго мацнейшага. За ўчыненае п'яным ДТЗ, у якім нехта загінуў альбо атрымаў цяжкія цялесныя пашкоджанні, вінаваты адправіцца за краты да 7 гадоў, калі загінулі два чалавекі і больш — да 10 гадоў.

За першы дзень дзеяння паправак на дарогах Беларусі затрымалі 77 п'яных кіроўцаў.

## Заплацілі 1 мільярд рублёў за рамонт, якога не было

**Месяца хапіла**, каб асвоіць вялізную суму.




**Такі «рамонт» ацанілі ў мільярд рублёў.**

Расследуецца крымінальная справа супраць былога дырэктара Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра гігіены. Яго абвінавацілі ў злоўжыванні паўнамоцтвамі, што нанесла дзяржаве шкоды на мільярд рублёў.

Па версіі следчых, дырэктар у лістападзе 2012 заключыў дамову з мінскай фірмай на правядзенне капітальнага рамонту ў адным з будынкаў цэнтра. А з рэспубліканскага бюджэту выдзелілі мільярд рублёў. Але ўжо ў снежні кіраўнік РНПЦ гігіены падпісаў акты здачы-прыёму выкананай працы ў поўным аб'ёме і аплаціў усю суму.

Аднак падчас праверкі высветлілася, што падрадчык выканаў не больш за 10% працы, пазначанай у акце. А конкурсная прапанова фірмы не адпавядала дакументацыі і не магла быць прынятая.

Расследаванне яшчэ працягваецца. Былы дырэктар можа адправіцца за краты на дзесяць гадоў.

**СМ**

### Вышук



**Чалавек на фота** падазраецца ў крадзяжы з мінскай крамы. Малады чалавек у жнівені зайшоў у падсобку, дзе скраў сумку. Савецкае РУУС Мінска просіць тых, хто пазнаў падазраванага, звяртацца на нумар (017) 292-02-02.



11-гадовы **Яўген Харчанка** сышоў з дому ў Смаргоні 23 кастрычніка. Прыкметы: рост 160 см, хударлявага целаскладу, вочы карыя, валасы русыя. Сутуліцца. Быў апрануты ў шэрую куртку, вязаную шапку з серабрыстымі ўстаўкамі, спартыўныя чорныя штаны, кеды з белымі шнуркамі. Хто ведае месцазнаходжанне хлопчыка, тэлефануйце ў Смаргонскі РАУС на: (01592) 3-32-41, (01592) 3-14-42.



**Ігар Гайтус**, 1983 года нараджэння, 14 кастрычніка каля 17 гадзін пайшоў з дому ў Гродне па вуліцы Купалы, 72 і не вярнуўся. Прыкметы: рост 173 см, валасы русыя, вочы блакітныя, на падбародку маецца круглы шнар. Быў апрануты ў шэрую куртку, сінія джынсы, цёмныя красоўкі. Хто ведае месцазнаходжанне зніклага, тэлефануйце на: (033) 666-68-56, (033) 666-60-33.

### Сцісла

**Паляўнічы застрэліў жонку**

Здарэнне адбылося ў вёсцы Вайганы на Валожыншчыне. Вяскоўцы ўбачылі суседку, што бегла па вуліцы. Пасля другога стрэлу яна павалілася. Аказалася, што жонку застрэліў муж-паляўнічы. А пасля са стрэльбы забіў сябе. Што стала прычынай трагедыі, пакуль невядома. Але сям'ю ў вёсцы характарызуюць станоўча.

**Пакалечылася ў цырку**

Падчас антракту на прадстаўленні цырка-шапіто ў Баранавічах дзяцей запрасілі пагайдацца на арэлях. Калі ўселася чарговая тройка і арэлі падняліся, трос абарваўся. З вышыні некалькіх метраў арэлі зваліліся на зямлю. 12-гадовая дзяўчынка зламала хрыбет. Астатнія дзеці атрымалі значна меншыя пашкоджанні.

**Не стала маці адзінаццаці дзяцей**

39-гадовая Кацярына Анохава з Пружанаў скончыла жыццё самагубствам 27 кастрычніка. Яна разам з мужам выхоўвала 11 дзяцей (двое сваіх, астатнія — прыёмныя або ўсыноўленыя). Прычына такога ўчынку высвятляецца.

**Дзіця засумавала па маці і засілілася**

11-гадовага хлопчыка ў ліпені прыёмныя бацькі адправілі ў аздараўленчы лагер у Стаўбцоўскі раён. Але там дзіця ўчыніла страшнае — павесілася. Падчас праверкі следчыя ўстанавілі, што хлопчык перад смерцю сумаваў па біялагічнай маці, праз што знаходзіўся ў эмацыйным напружанні.

**Смяротніку адмянілі расстрэл**

Вярхоўны суд адмяніў смяротны прысуд Аляксандру Грунову. Раней яго прыгаварылі да расстрэлу за жорсткае забойства 21-гадовай студэнткі ў Гомелі ў верасні 2012. 102 разы хлопец ударыў яе нажом. Прычыну агрэсіі на судзе патлумачыў абразай: за тры месяцы да забойства дзяўчына пасварылася з ім у кампаніі, а прасіць прабачэння адмовілася. Цяпер будзе новы суд, які пакіне суровае пакаранне альбо заменіць яго больш мяккім. Бацькі ж забітай дзяўчыны будуць настойваць на смяротным прысудзе.

**КМ**

# Палацы самых

Працяг са старонкі 2.



### Юрый Чыж, 1963 (1 месца ў рэйтынгу самых уплывовых і паспяховых бізнэсмэнаў Беларусі 2013 года)

Самы багаты беларус пабудаваў дом у Драздах, побач з міністрамі, суддзямі і пракурорамі і непадалёку ад жылой рэзідэнцыі Аляксандра Лукашэнкі. Гэта цагляны двухпавярховік з падвалам і тэрасамі. На тэрыторыі ўчастка ёсць нават вальеры.

«Класічны праект вартага архітэктара, нічога лішняга, усё на сваіх месцах: фасады прапарцыйныя, элементы фасада прывязаныя без памылак, цёмныя шклопакеты, дастатковае навісанне даху... Памер архітэктурнага аб'ёму і шчыльнасць архітэктурных элементаў гармануюць, што сведчыць аб разумным падыходзе заказчыка да працэсу праектавання і пра яго давер прафесіяналам. Гэта пацвярджае і агароджа ўчастка, матэрыял і рашэнне якой максімальна дарэчы і прывязаны да праекта дома. Мінусы — несіметрычнае рашэнне, скатны казырок над уваходам, што не характэрна для класікі, і ўсё-ткі занадта «вясковы» для класічнага катэджа плот», — мяркуе Аляксандра Баярына.





### Аляксандр Шакуцін, 1959 (2 месца)



Дом старшыні рады дырэктараў «Амкадора» мы знайшлі ў Бараўлянах. Ягоны блокавы двухпавярховік з падвалам, мансардай і некалькімі тэрасамі нічым не вылучаецца сярод суседніх катэджаў. «Дом, пра сустрэчу з якім хочацца забыцца. Дзіўна, але тут як выпадковыя элементы, так і не выпадковыя глядзяцца аднолькава агідна. Гэта ўсё проста элементарна непрыгожа!» — не хавае эмоцый эксперт.



### Уладзімір Япрынцаў, 1961 (19 месца)



Чэмпіён Еўропы па самба, адзін з найбліжэйшых кампаньёнаў Юрыя Чыжа будуецца ў Драздах непадалёку ад свайго шэфа. «Даволі сціплы праект, выкананы ў дарагіх матэрыялах. Цэгла робіць сваю справу, і ў цэлым будынак прывабны», — мяркуе эксперт.

### Віталь Арбузаў, 1966 (3 месца)

Імя Арбузава мала што кажа беларусам. Уласнік групы кампаній Fenox вядзе бізнэс за мяжой, аднак мае заводы і ў нашай краіне.

Ягоная рэзідэнцыя ў Мар'ялiве (лагойскі кірунак) — драўляны цёмназялёны дом за высокім плотам, таксама драўляным. «Добрая спроба стварыць сучасны, модны дом, аднак фармаўтварэнне па састарэлых прынцыпах гэтую спробу адразу ж прыраўняла да нуля. Больш падобна да лазні ці гасцявога доміка», — мяркуе Аляксандра Баярына.







### Алег Хусаенаў, 1964 (22 месца; 2 месца ў рэйтынгу 2008)

Трохпавярховік на Цянцы (поўнач Мінска) належыць жонцы і сыну саўласніка аўтамабільнага холдынга «Атлант-М». Цяпер Хусаенаў захапіўся стварэннем першага беларускага фонду прамых інвестыцый «Зубр Капітал».



«Катэдж з шэрагу тых «пераходных», на якіх мы, архітэктары, вучыліся. З'явілася магчымасць зрабіць нешта цікавае, бюджэт дастатковы для ўвасаблення, але абодва ўдзельнікі, архітэктар і заказчык, яшчэ толькі робяць свае першыя крокі. Заказчык вучыцца давяраць спецыялісту, архітэктар спрабуе ўвасобіць сваю задуму, не падазраючы, што ў стыках і вузлах атрымае адны суцэльныя «касякі». Сёння такое ўжо ніхто не возьмецца ні замовіць, ні запраектаваць», — падсумоўвае Аляксандра Баярына.

# багатых беларусаў

**Павел Тапузідзіс, 1956 (4 месяца)**

Уласнік «Тытунь-Інвеста» і гіпермаркетаў «Карона» мае два катэджы. У першым, у Драздах, працягваецца рамонт. Больш прадстаўнічы дом Тапузідзіс пабудаваў у Ратамцы на беразе Мінскага мора, на ўскрайку свайго ж «Робінсан Клаба».

«Такія катэджы называюцца «Давайце зробім сціпла і з густам». На бюджэт гэта, як правіла, не ўплывае. Будынак добра пасаджаны ў плоскасці, аднак дэталі аб'ёму далёка не ідэальныя. Намёк на стыль «кантры», добраўпарадкаванне з класікі, зяляніна ўсходняя — па элементах добра, а разам — не зразумела што», — выносіць свой вердыкт архітэктарка.









**Уладзімір Александровіч, 1957 (17 месяца)**

Былы дэпутат палаты прадстаўнікоў, дырэктар будаўнічай кампаніі «Ітэра-Бел» пасяліўся за Нацыянальнай бібліятэкай. На ягоным участку два дамы — драўляны і цагляны. «Шкада, што традыцыя фармаваць вуліцу фасадамі жылых дамоў у нас страчана. Цяпер кожны хаваецца, як можа. Можа быць, гэта сціпласць? Або жаданне быць і жыць «невідзімкай»? — разважае архітэктар. — Рашэнне балкона, даху, прывязка мансардных вокнаў і адлегласць ад вокнаў верхніх паверхаў да даху даюць зразумець, што не ўсё было гладка ў працэсе пабудовы. Будынак эклектычны і досыць пасрэдны».

**Уладзімір Пефціеў, 1957 (12 месяца; 1 месца ў рэйтынгах 2009 і 2011 гадоў)**

Гандляр зброяй Уладзімір Пефціеў будуе сядзібу ў Раўбічах (лагойскі кірунак). Гэта фактычна два будынкі, кожны па чатыры паверхі. Іх агульная плошча перавышае 1700 м²!

«Выдатны жылы дом, з апломбам і запалам! Гэта падкупляе. Пасылы гледача да канструктывізму і мінімалізму пры ўсёй сваёй бязладнасці тым не менш дазваляюць аднесці будынак да сучаснай інтэрнацыянальнай архітэктуры. Фасадныя матэрыялы — свята для архітэктара сёння. Праектаваць такія дамы з такім бюджэтам — гэта менавіта тое, для чаго мы вучыліся на архітэктуры! — радуецца Аляксандра Баярына. — Адно толькі не зразумела, што ў двары гэтага катэджа робіць лазня / гасцявы домік з саламяным дахам!»







**Віктар Шаўцоў, 1963 (30 месца; 8 месца ў рэйтынгу 2009)**

Праваслаўнаму мецэнату Віктару Шаўцову ўдалося выйсці на волю пасля перыяду апалы і вярнуцца ў Дразды. Крымінальная справа супраць уласніка «Белзамежбуда» і «Трастбанка» спыненая.

«Праектавалі класіку — атрымалі эклектыку, прычым эклектыку з памылкамі: занадта маленькія вокны для такога аб'ёму, рустоўка недарэчных памераў, усе элементы фасада як быццам ўзятыя з іншага, маленькага дамка, вынас элементаў недастатковы, малюнкі агароджы з іншай песні, арка занадта спадзістая — перад намі «самабуд» з плоскімі, дзіцячымі «налепкамі», — разважае архітэктар.






**Віктар Пятровіч, 1964 (42 месца; 6 месца ў рэйтынгу 2011)**

Кампаньён Паўла Тапузідзіса жыве ў цэнтры Мінска, зусім побач са сваёй «Каронай», фактычна пасярод паркоўкі. «Няма слоў, гэта проста страшны сон архітэктара», — падсумоўвае Аляксандра Баярына.

*Ягор Марціновіч, фота Сяргея Гудзіліна і Насты Храловіч*

# Гангста-рэпер Міця Аўчыннікаў памёр у 27 гадоў




СЯМЕН ПЕЧАНКО.

21 кастрычніка ва ўзросце 27 гадоў не стала беларускага гангста-рэпера Міці Аўчыннікава. Ягоны праект Jah#ponica стаў вельмі папулярным у інтэрнэце.

Рэч у тым, што першыя два альбомы Аўчыннікаў запісаў у калоніі пад Магілёвам. Сярод іншага ён выконваў і беларускамоўныя песні, хай і з вялікай колькасцю мацюкоў.

Аднак не толькі турэмным (а тут гаворка ідзе менавіта пра турэмную музыку, вельмі далёкую ад так званага цяперашняга шансона) рэпам быў вядомы Аўчыннікаў: пасля вызвалення ён паспеў папрацаваць у розных жанрах — ад рэгей да фанка. Аўчыннікаў стварыў гурты Moon Baby і The Racement.

Калегі Аўчыннікава па апошнім гурце абяцаюць выпусціць усю тую музыку, што засталася невыдадзенай пры жыцці рэпера.

Прычыны смерці не называюцца. Аднак кулуарна гавораць, што ў рэпера маглі быць праблемы з наркотыкамі.

**ЮУ**

# Рэальная колькасць алкаголікаў у Беларусі невядомая

Паводле звестак Міністэрства аховы здароўя, у Беларусі па стане на 1 кастрычніка 2013 налічвалася 175 тысяч алкаголікаў. Яшчэ 86 тысяч чалавек злоўжываюць алкагольнымі напоямі і знаходзяцца на прафілактычным уліку. Аднак у статыстыку трапляюць толькі дыспансерызаваныя.

Прадстаўнікі Міндароўя не называюць нават прыкладнай лічбы хворых на алкагалізм у краіне. Але старшыня сектара наркалогіі арганізацыйна-метадычнага аддзела ДУ «РНПЦ псіхічнага здароўя» Уладзімір Максімчук паведаміў, што яна значна большая за афіцыйную статыстыку.

Згодна з апошнімі звесткамі Міндароўя, агулам назіраецца пазітыўная дынаміка: алкаголікаў сёлета стала на 2 тысячы менш за мінулы год. На тысячу паменела непаўналетніх алкаголікаў: цяпер іх 16 тысячаў.

А вось з жаночым алкагалізмам назіраецца трывожная тэндэнцыя.

Цягам апошніх 5 гадоў колькасць хворых жанчын толькі расце і на 1 кастрычніка склала 39 тысяч. На 23% павялічылася смяротнасць ад выпадковых атручванняў алкаголем. Летась было зафіксавана 1 918 такіх атручванняў.

**Кірыла Хілько**




**Антыалкагольны стэнсіл у Заслаўі.**

СЯМЕН ПЕЧАНКО.

# Сэкс двойчы на тыдзень напалову зніжае рызыку інфаркту

Некалькі гадоў брытанскія навукоўцы вялі назіранне за сэксуальнай актыўнасцю групы з тысячы мужчын ва ўзросце паміж 40 і 70 гадамі.

Эксперты прыйшлі да высновы, што мужчыны, якія займаюцца сэксам не менш за два разы на тыдзень, амаль удвая скарачаюць рызыку заімець праблемы з сэрцам.

Па статыстыцы, інфаркты здараюцца ў мужчын, у сярэднім, на 10 гадоў раней, чым у жанчын. Тлумачаць гэта тым, што палавы гармон эстраген, які выпрацоўваецца ў арганізме жанчыны, актывізуе «добры» халестэрын, абараняючы тым самым каранарныя сасуды.

Спецыялістамі былі ўлічаны таксама іншыя фактары рызыкі: узрост, вага, крывяны ціск і ўзровень халестэрыну ў паказчыках стану здароўя ў валанцёраў.

Навукоўцы заклікаюць да таго, каб лекары пры ацэнцы рызыкі захворванняў сэрца ў мужчын, прымалі пад увагу іх сэксуальную актыўнасць. Жанчыны не бралі ўдзелу ў дадзеным даследаванні.

**Сямён Цыбульскі**





**Камертон Сяргея Ваганава**

# Пра гета ў прайм-тайм

21 кастрычніка, праз 70 гадоў пасля «канчатковага вырашэння габрэйскага пытання» ў Мінску, АНТ паказала фільм «Хроніка Мінскага гета». *(Сцэнар Б.Герстэна, рэжысёр У. Луцкі, прадзюсер У. Бокун.)*

Напярэдадні адбыўся грамадскі прагляд у кінатэатры «Перамога». Прыблізна за гадзіну да яго на Мінск абрынулася залева, і горад ператварыўся ў велізарны затор. Пазней я даведаўся, што тыя, хто ўсё ж здолеў трапіць у кінатэатр, прасілі прытрымаць прагляд, каб дачакацца ўсіх. То бок усіх, хто, натуральна, чакаў ад стваральнікаў фільма праўды.

...У 22.05 я ўключыў тэлевізар... У 22-10 АНТ расказала пра нейкую новую цуда-макарону... У 22.15 я пачуў, як габрэйскія матулі душылі сваіх немаўлят, каб яны не выдалі сваім плачам астатніх... А ў 22.20 тэлеэкран паведаміў мне пра новыя лекі ад нястраўнасці...

Прайм-тайм.

На наступны дзень я зноў паглядзеў фільм на партале tut.by. А потым чытаў выказванні суседзяў па віртуальнай інтэрнэт-зале. «Собрались евреи и сделали фильм о евреях... Теперь его купят продюсеры евреи и т.д.», «Спасибо немцам. Они сделали наш город чище»...

Пара цвярозых галасоў проста патанае ва ўзнятай хвалі антысемітызму, адкрытага або прыхаванага. Узнятай, па ўсім відаць, не старымі закаранелымі антысемітамі, бо старыя па інтэрнэце наўрад ці шныраюць. Але чаму іх нашчадкаў не напалохалі жахі Мінскага гета, а кранальныя споведзі былых ягоных вязняў, увогуле эмацыйная насычанасць фільма, не вымусілі страпянуцца ад лёсу іх колішніх землякоў?!

Я працягнуў руку да кніжнай паліцы і ўзяў адтуль невялікую кніжку ў мяккай зжаўцелай вокладцы...

Гэта кніжка была сярод першых, што я прачытаў у дзяцінстве. Добра памятаю, як я чытаў яе ва ўтульным крэсле, яшчэ мала разумеючы, што там напісана і што адбываецца наўкол. «Тата, — пытаўся я, — а што такое гета?» Ён тлумачыў, я ўціскаўся ў крэсла ўсё глыбей і глыбей... Колькі год кніжка стаяла ў бацькоўскай бібліятэцы на бачным месцы, а потым знікла. Знікла адусюль.

Я вось думаю: чаму ў фільме АНТ так няўцямна ўзгадана пра Гірша Смоляра і існаванне ў гета нейкага супраціву, а пра ягоную кніжку «Мсціўцы гета» — ані слоўца?

Ці не таму, што фільм, так бы мовіць, трапіў у прайм-тайм, то бок у зручны для ягоных стваральнікаў час ідэалагічнага «навабуду» ў стаўленні ўладаў да «габрэйскага пытання»? Ахвяры, жахі, помнікі, жалобныя мітынгі з удзелам афіцыйных асоб — колькі заўгодна. Масавы ўдзел габрэяў, у тым ліку з гета, ва ўзброеным супраціве нацызму — праз зубы. Дзяржаўны антысемітызм у СССР і на постсавецкай прасторы — маўчок. Фігура змаўчання, так бы мовіць...

## Гісторыя гісторыі Мінскага гета пачалася з кніжкі Гіршы Смоляра

Практычна ўсё, што ёсць ў гэтым фільме, ёсць у кніжцы ГіршаСмоляра. Але ўсяго, што ёсць у кніжцы Гірша Смоляра, у фільме няма. Нічога з дзясяткаў фактаў падпольнага і партызанскага супраціву вязняў гета. Нічога з мноства лічбаў і прозвішчаў, у тым ліку здраднікаў і нацысцкіх памагатых з боку габрэяў. Нічога з трагічных і гераічных лёсаў мсціўцаў і барацьбітоў...

Так, ёсць жудасная гісторыя, паводле аўтараў фільма — «хроніка» Мінскага гета. Але ёсць яшчэ гісторыя гісторыі Мінскага гета, якая пачалася менавіта з кніжкі Гіршы Смоляра — падпольшчыка, партызана, пісьменніка, журналіста — яшчэ ў 1947 годзе, першай у СССР. Гісторыя забарон, афіцыйнага замоўчвання і палітычна-крымінальнага пераследу. Але не толькі.

Па-за межамі забарон і замоўчвання гэта гісторыя налічвае сотні ўспамінаў і дзясяткі навуковых даследаванняў, мноства газетных артыкулаў і фотаздымкаў... Неяк дзіўнавата бачыць аўтараў «Хронікі...» ў якасці першаадкрывальнікаў.

Я зноў цягну руку да кніжнай паліцы і бяру адтуль касету з фільмам светлай памяці Самсона Палякова «Яма...», што быў створаны ім у відэацэнтры ПЭН-цэнтра яшчэ ў 1999 годзе, але паказаны толькі раз у мінскім хэседзе. Мусіць, таму, што ў жахлівыя ўспаміны трох былых вязніц урываюцца звар'яцелыя антысеміцкія заклікі сумнавядомага генерала Макашова...

Дык ці маральна сёння расказваць пра гета і нічога не казаць пра народжаную Сталіным ці не ад самага пачатку вайны палітыку дзяржаўнага антысемітызму, што стварыла глебу для будучага славяна-фашызму? Пра безліч ахвяраў гэтай палітыкі — ад забароненых кніжак да падпольшчыкаў, што з гета ды канцлагераў траплялі ў сталінскі ГУЛАГ; ад былых франтавікоў да партызанаў, што амаль усё далейшае жыццё пражылі пад ціскам 5-й графы...

Ці маральна сёння згадваць пра беларусаў, якія, рызыкуючы жыццём, ратавалі габрэяў, і нічога не казаць пра антысемітызм пэўнай часткі іх супляменнікаў, за якім цягнецца крывавы след не толькі паліцэйскіх, але і партызанскіх расправаў?

Дзеля чаго — казаць?

Дзеля праўды.

Бо антысемітызм вельмі ўтульна пачувае сябе ў «прайм-тайме», хаваецца за паўпраўдай ды сілкуецца атрутай хлусні.

А дзеля чаго тая праўда?

Адказ я знайшоў у кніжцы Гірша Смоляра. Усё ж бацька схаваў яе не зусім.

Дзве рэчы я захоўваю ў гэтай кніжцы — уласную памяць і верш «Над Ямай», падораны Рыгорам Барадуліным.

«...Па радасці і па бядзе браты, // Мы ўсе стаім // Над апраметнай Ямай...»

Усе?

*kamerton_41@mail.ru*

# Кудзіненка: Увесь час думаю пра чырвоную дарожку!

**Самы вядомы беларускі рэжысёр — пра алкаголь, Беларусьфільм і беларускія ўнітазы.**

Пра што ні гавары з Кудзіненкам (нават без алкаголю), размова зводзіцца толькі да адной тэмы — кіно. Цяпер рэжысёр працуе пераважна ў Маскве — рыхтуе псіхалагічны трылер Hard Reboot з Noize MC у галоўнай ролі. Фільм чакаецца ўлетку, пакуль жа мы запыталі Андрэя Кудзіненкі пра досвед рэжысуры ў Беларусі і не толькі.

### Пра «Беларусьфільм»

Праблема нашага кінематографу ў кадрах: іх амаль не засталося, бо ў нас не цэніцца чалавечы фактар. Сяргей Сяльянаў, прадзюсар, калісьці правільна заўважыў кіраўніцтву «Беларусьфільму», што тыя закупілі звышдарагое абсталяванне, якога нават на «Масфільме» няма, а людзям плацяць па 150-200 баксаў. Пры гэтым размеркаванне грошай зусім неадэкватнае. Бывала, што на здымках «Масакры» працавала 3-5 чалавек, а я разумеў, што за гэтымі трыма сядзяць 150 лайдакоў, што ставяцца да цябе, як да ворага, а зарабляюць больш.

### Пра «Масакру»

На «Масакры» была гісторыя: я мусіў завершыць здымкі да Новага года, а снегу не было. Прывезлі снежныя пушкі, але тыя даюць зусім іншы эфект. Мы вырашылі здымаць іншую сцэну, у памяшканні, і ўжо пад вечар прыбягае каскадзёр, кажа, снегу намяло. Я ўзрадаваўся — добра, кажу, заўтра з раніцы здымем. А вадзіцелі на гэта — не, мы нікуды не паедзем, сёння адпрацавалі ўжо. Раніцай, праўда, усе выйшлі на працу, а я ім купіў па бутэльцы каньяку.

### Пра «Жыве Беларусь» і Сяргея Лазніцу

Сяргей Лазніца за два мільёны даляраў здымае кіно, дзе героі 5 хвілін едуць і маўчаць — дык што гэта за кіно? Лазніца, як і некаторыя маскоўскія хлопчыкі, у якіх ёсць грошы, — здымае нейкае мапет-шоу, а не кіно.

А «Жыве Беларусь!» — прапаганда чыстай вады. Калі паглядзеў яго, узгадаўся стары прапагандысцкі фільм «Шчыт айчыны». Лукашэвіч (рэжысёр «Жыве Беларусь!») быў у нашым войску? Там усё вылізана, пафарбавана. Дзе Лукашэвіч бачыў там брудныя ўнітазы? Там іншай жэсці хапае, але ўнітазы ўсе чыстыя. Я не лукашэнкаўскі герой, але тое, што Лукашэвіч там паказаў — ні ў якія вароты не лезе.

### Пра алкаголь

У кінематографе свае правілы: піць нельга, калі ты працуеш прадзюсарам. Рэжысёру таксама нельга, але я п'ю: калі б мы не пілі пасля здымкаў, кіно б не было. На здымках адной стужкі, напрыклад, людзі тры дні былі «пластмасавыя», пакуль не выпілі разам. Пытанне не ў тым, п'еш ты ці не п'еш, а ў тым, што цябе канчае. Алкаголь — гэта неабходная падпітка, каб разбурыць свет шаленства, у якім мы з дзяцінства існуем.



### Пра футбол

У дзяцінстве я збіраўся стаць футбалістам, гуляў вельмі шмат. Але ў пэўны момант зразумеў, што таленту няма: я не бачыў поля. Гэта самае складанае, але неабходнае. А ў кіно «поле» бачыць не абавязкова. Некаторыя — Хічкок, Эйзенштэйн, мой сябра нябожчык Колбышаў — бачаць фільм ад пачатку да канца яшчэ да першага дубля. Мне бліжэйшы Гайдар — ён больш імпульсіўны, схільны да імправізацыі.

### Пра працу

Ці патрэбнае беларускае кіно? А ці патрэбнае галандскае, французскае? Калі робіш кіно, думаеш пра сябе, а не пра тое, ці патрэбнае яно. Часам рэжысёры кажуць, маўляў, здымаюць «для сябе», але ўсё роўна немагчыма не чакаць, калі будуць апладысменты, людзі, зала.... Увесь час думаеш пра чырвоную дарожку! (Смех).

### Пра герояў

Памятаю, як у дзяцінстве хацеў трапіць на «Кінг-Конга». А пускалі толькі пасля шаснаццаці (у суправаджэнні бацькоў). Тата ведаў, што там голая бландзінка, і таксама не пускаў мяне. А яшчэ ў дзяцінстве любіў Алена Дэлона, Чэлентана...у прынцыпе, усё заходняе любіў. А вось індыйскае кіно не ўзбуджала ніколі.

**Гутарыла Марына Вашкевіч**

*Ад Рэдактара. Ужыванне алкаголю шкодзіць вашаму здароўю.*

**Фотафакт**

## Стагоддзе спадарыні Элеаноры Кіркевіч

Сябры беларускі Элеаноры Кіркевіч, якая жыве ў горадзе Саўт-Рывер, штат Нью-Джэрсі (ЗША), адзначылі ейныя 100-я ўгодкі жыцця 26 кастрычніка ўрачыстым абедам з кветкамі, падарункамі і віншаваннямі.

На здымку: юбілянтка (сядзіць пасярэдзіне) справа ад яе — зяць Віталь Каракулька, а злева — Віла Леўчук і Ліза Літаровіч; стаяць (злева) Ірэна Цупрык і Янка Запруднік, унукі сп-ні Кіркевіч Ніна й Мікалай Каракулька й Надзя Запруднік.



## Негры, крумкачы і здані

Цікавыя навіны, якія **не трапляюць у зводкі.**

На мінулым тыдні ўсіх, хто рухаўся на грузавіках па Лоеўскім раёне (памежным з Украінай) спынялі памежнікі і міліцыя, правяралі аўтамабілі. Аднаго кіроўцу аж тры разы спынілі. «Ды што ж вы так пільна шукаеце?!» — урэшце абурыўся вадзіцель. «Неграў!» — злосна буркнуў чалавек у форме. «Якіх неграў?» — здзівіўся кіроўца. «Чарнаскурых!» — удакладніў маёр.

Шукалі чарнаскурых і заўтра, і паслязаўтра. Аказалася, што ў памежны атрад, які месціцца ў Лоеве, паступіла інфармацыя, што праз Дняпро на чаўнах пераплылі з украінскага на беларускі бок атрад неграў. Сведкам надзвычайнага здарэння быў мясцовы жыхар. У ранішнім золку яму здалося, што плывуць па Дняпры негры, толькі зубы белыя шчэрацца, аб чым і паведаміў вясковец у органы. Злыя языкі кажуць, што негры на Дняпры — гэта такая праява дэлірыю (белай гарачкі — простай мовай) вяскоўца. Але памежнікі, натуральна, павінны правяраць інфармацыю ў незалежнасці ад крыніцы.

Злыя языкі хай сабе кажуць, а добрыя языкі (прынамсі, супрацоўнікі памежнага атрада) не пацвярджаюць гэтую інфармацыю. Ці плылі па Дняпры негры, ці гэта былі алкагольныя здані? Гэта невядома. Але мяжа наша — на надзейным замку, бо сочаць за ёй не толькі памежнікі, але і простыя грамадзяне. Вораг — не пройдзе! Асабліва калі ён мае іншы колер скуры.

* * *

На вуліцы Кніжнай Гомеля пабудавалі новы будынак навукова-даследчага інстытуту «Беларуснафты». «БелНІПІнафта» называецца. Раней на гэтым месцы (ды і на ўсёй тэрыторыі Кніжнай) месціўся канцэнтрацыйны лагер, дзе загінулі не менш як 100 тысяч чалавек. Два гады таму актывісты БХД збіралі подпісы за будаўніцтва царквы ці капліцы на месцы масавай згубы ваеннапалонных. Было сабрана каля 400 подпісаў за будаўніцтва храма ў гонар нявінна забітых. Але царква ці капліца так і не з'явілася на Кніжнай. Затое ў аўральным тэмпе вырас будынак БелНІПІнафты.

Як толькі яго адбудавалі, дык пачалося нешта незразумелае рабіцца летнімі вечарамі. Напрыклад, крумкачы менавіта над будынкам навукова-даследчага інстытуту чорнага золату пачалі ладзіць свае сходкі. Тысячы чорных крылаў аж неба захіналі на Кніжнай, калі насіліся з лямантам над вуліцай і сядалі на будынак БелНІПІ.

Некалькі разоў жыхары Гомеля рабіліся сведкамі незвычайных паводзінаў птушак, якія збіраліся і лямантавалі над БелНІПІнафтай. Далей — болей. Адзін з супрацоўнікаў навукова-даследчага інстытута расказаў мне на ўмовах ананімнасці, што пачалося невядома што ў новым сучасным будынку. «Начамі спрацоўвала сігналізацыя, як быццам нехта чужы ходзіць па будынку. Прыязджаў Дэпартамент аховы, абследаваў будынак — але нідзе нікога не было. І так некалькі разоў. Затым на ніжніх паверхах і ў сутарэннях чуўся дзіцячы плач, мужчынскія галасы. Зноў выклікалі «Ахову» — і зноў нікога не знайшлі, прынамсі, з жывых людзей», — перадаў інфармацыю супрацоўнік інстытута. Урэшце, па яго словах, кіраўніцтва, якому надакучылі выклікі «Аховы» дзень-пра-дзень, выклікала праваслаўнага святара. Той асвяціў будынак — і стала ціха. Нават крумкачы не збіраюцца зараз над БелНІПІ. «Напэўна, душы памерлых дагэтуль ня могуць знайсці сабе супакаення», — лічаць мясцовыя жыхары.

Разам з тым гомельскія ўлады на плошчы Паўстання, каля памятнага знаку, што «Тут былі забітыя 100 тысяч чалавек», ладзяць кожны тыдзень то кірмашы, то выставы, то канцэрты. Тысячы памерлых — і над іх безыменнымі магіламі — танцы, песні, весялуха, бульба, морква, медавуха...

**Юлія Шымкевіч, Гомель**

# Я — беларусачка. Бульбашыхай сябе не лічу

XXI стагоддзе... Прапускаючы праз сваё сэрца ўсё тое, што нейкім чынам вядома, я адчуваю сябе ў Сярэднявеччы. А можа нават і глыбей, далей, у нейкіх незразумелых джунглях...

П'янства, абяздоленасць, абнішчанне. Азлобленыя беднасцю, падманутыя людзі шукаюць выратаванне ў шклянцы барматухі... Адсюль — агрэсія, злосць, духоўная пустата, нярвовасць на мяжы псіхозу. Бунт супраць сваіх родных, блізкіх, такіх безабаронных, як самі. Чалавек становіцца закладнікам сістэмы, не бачачы выйсця, апускаецца на дно жыцця.

Тыя, што стаяць на вяршыні айсберга, ламаюць галовы, куды яшчэ пхнуць, затаптаць недабітага. Забралі мову. У загоне беларуская літаратура, школы, вну... Нацыя знікае, калі яна перастае гаварыць на сваёй мове. У сваім доме мы бяздомныя. У сваёй мове мы бязмоўныя. Добра «стараецца» наш старэйшы брат — Расія. І Беларусь без беларусаў застанецца, калі мы будзем глядзець на тое, што вакол нас, што з намі, залажыўшы вушы ватай і заплюшчыўшы вочы.

**«Бульбашъ» ужо маргае табе, заклікае: ператрасі кішэні, аддай апошняе на бутэлечку**

Нам падрыхтавалі заманіху «Бульбашъ». Такое «роднае», «блізкае» слова. Пра нас «думае і хвалюецца» дзяржава!? Вось ён, наш «паратунак»! Радуйся, бядота. «Бульбашъ» ужо маргае табе, заклікае: ператрасі кішэні, аддай апошняе на бутэлечку... Купі, хоць рукавом закусі.

Адчуй, задумайся, дружа, не клюй на гэту заманіху. Не перап'еш усё, што будзе выпускаць завод «Бульбашъ»...

Як жа трэба не паважаць народ, падштурхоўваць яго да магілы... Як жа стараюцца нашкодзіць, абняславіць, апляваць, выкарчаваць гонар і годнасць палітыкай збаўлення ад Свайго Народа.

Заліў гора барматухай, атупеў, сеў за руль, часам чужой машыны, нарабіў бяды. Пад коламі задушаныя. Сам — за кратамі. Ну і што? Забівайце адзін аднаго, крадзіце, гвалтуйце... Ну і што? Вы ж — бульбашы. Дзе ж вам да цывілізацыі?! Павялічваецца крымінал, рушацца сем'і, дзеці-сіроты часцей за ўсё паўтараюць лёс сваіх бацькоў.

Сорамна за дзяржаву. Балюча за Народ. Махавік круціцца. Перамолвае целы і душы, топча, калечыць, каб глыбей пхнуць у багну. А там недалёка і да магілы. Нанааматары, эксперыментатары стараюцца: на дзяржаўным узроўні ўзвялі ў патрэбны ранг Бульбашъ.

... Мне ўспомнілася дзяцінства. У летнія канікулы мы, хлопчыкі і дзяўчынкі 4-5-х класаў, ганялі мяч або скакалі цераз вяроўку. Часамі скандзіравалі недзе пачутае чатырохрадкоўе:

Хадасы — каласы,
Воўкарась — мякіна,
Далятычы — бульбашы,
Загор'е — лупіны.

Гэта пра нашы родныя вёсачкі. Ніхто ніколі на гэта не звяртаў увагу ні ў сем'ях, ні ў якіх размовах паміж дарослымі. Крышачку пазней гэтае слова знікла, забылася.

...Я — беларусачка. Бульбашыхай сябе не лічу. Да мяне гэты ярлык не прыліпне. І не толькі. Нас большасць. Мы — вялікая сям'я. Не хвалюйцеся, браты і сёстры, — вытрымаем. Нас гнуць усё ніжэй, каб у зямлю глядзелі, каб забыліся, што ёсць Неба, Сонца, Зоркі... Наш розум, нашы сэрцы, нашы душы зберагліі анёлы-ахоўнікі. Любоў да сваёй Радзімы — гэты флагман робіць нас непахіснымі. Ніякія нана-бульбашы не звернуць нас з дарогі праўды і свабоды.

Наша слаўная моладзь — надзейны фонд свабоднай Беларусі. Вы, новыя пакаленні, вы — сейбіты і змагары, я знаю Вас. І вам працягваю рукі — яны чыстыя ў мяне. Розныя пакаленні, а мэта — адна. У гэтым наша моц. Мы — не бульбашы. Мы — дзеці Сонца. Мы — Беларусы.

**Роза Рымар, Гродна**

## Дык давай перапішам — Беларусь, гісторыю, народ, сем'і

Слова мацнейшае за атамную бомбу і цунамі. Яно ж нясе і памяць пра нашу гісторыю, і пра стратнае мінулае, пра якое хочацца забыцца. Адсюль прага да перайменавання.

У беларусаў ёсць прывычка тудысюды мяняць гідронімы, тапонімы, прозвішчы... Але ж як няма сёння ўжо ні трацкізмаў, ні молатавых, не будзе і «сярэневак».

Мы спрабуем часам тлумачыць старажытныя назвы з пазнейшых моўных набыткаў. Старабалгарскімі-царкоўнаславянскімі-расійскімі словамі (з XIX ст.) паясняем назвы рэк ці паселішчаў 2-3 тысячагадовай гісторыі або выцясняем лаціну: бульба, балея, сёрбаць...

Рэчкі, паселішчы дахрыс-ціянскія — санскрыт, які захаваўся ў жывой традыцыі дасёння ў так званай дзіцячай мове. Бах — удар. Шабадах — шабадах: так падганяюць каня верхам. Грыва. Уша(с) — золак, ранняя зорка. Чычыр, сівер — вецер з холаду, з поўначы. Ням. Тата. Папа (грэх!) Пута — злая ведзьма.

Нават шчырыя гісторыкі забываюцца пра гэта. Нядаўна спрэчка пра Гродна выйшла ў часопісы, пачалі «гарадзіць агароды», а Гродна-Гародня — трэба шукаць карані ў словах... Гавяда-гоў — карова, Ра, Дон — у санскрыце, як і Шчара. Слоніма — зусім не Услон Масквы ад Літвы, а месца, дзе захад сонца. Але ж...

Было між Баранавічамі і Слонімам мястэчка Гавенавічы, сугучна Гавязно. «Непрыгожа!» Перайменавалі. А Гавенас — дагэтуль вядомы ў Літве бажок гумна, будыніны! Гавін — прозвішча таксама адгэтуль.

Дык давай перапішам — Беларусь, гісторыю, народ, сем'і?!! Пару гадоў таму пайшоў я запісаць сына Рыгора. Чыноўніца: «Как будет по-русски? Григорий! Латинскими буквами пишите». Чаму я павінен лацінскае імя Рыгор — строгі — перайменаваць на грэцкае Григорий — пастух? Чаму чыноўніца сваё прозвішча не перакладае з беларускай на рускую мову: Шашкова — Хорькова? Мы ж пішам прозвішча Праляскоўскі, а не Подснежников.

Запісаў я, вядома хлопца Рыгор-Валадзей. Але ж праблему ўзнімаюць зноў двоечнікі-чыноўнікі! Паможам ім!

**Уладзімір Іскрык**

## Шэсце і мітынг на Дзяды дазволеныя

Мінскі гарадскі і абласны выканаўчыя камітэты задаволілі заяўку Кансерватыўна-хрысціянскай партыі — БНФ на правядзенне традыцыйнага шэсця і мітынгу памяці продкаў «Дзяды».

Яны пройдуць 3 лістапада. Збор удзельнікаў а 10:30 каля Гадзіннікавага завода (ст. метро «Парк Чалюскінцаў»). Ад 11:00 да 14:30 — шэсце ў Курапаты.

Удзельнікі шэсця пройдуць па традыцыйным маршруце ад мінскага парку Чалюскінцаў да ўрочышча Курапаты праспектам Незалежнасці, вуліцамі Каліноўскага, Сядых, Карбышава, Гамарніка і Мірашнічэнкі. Людзі будуць несці бел-чырвона-белыя сцягі і крыжы, якія ўсталююць у Курапатах, а таксама свечкі і кветкі.

Ад 30 кастрычніка 1988 года [першы раз адзначэнне было ў 1987 г.] традыцыйны дзень памінання нябожчыкаў — Дзяды — набыў характар грамадска-палітычнай падзеі.



# Хто гэтыя людзі?

Пра кнігу **Святланы Алексіевіч** «Час сэканд-хэнд».

Чытаючы кнігу Святланы Алексіевіч «Час сэканд-хэнд» сам у сябе ўвесь час запытваешся: дзе ў ёй Беларусь? Я не пра тое, што кандыдат на Нобеля па літаратуры ад нашай краіны мусіць пісаць пра дзве душы ці новую зямлю. Але аўтарка ў кнізе даследуе, як яна кажа, «асобны чалавечы тып», выведзены ў лабараторыях марксізму-ленінізму — гома саветыкуса. На яе думку, гэта наднацыянальны феномен.

Маналогі суразмоўцаў Алексіевіч — пра сталінскі тэрор, вайну, перабудову, 90-я гады, путч. Гэта дакументалістыка, а не выдуманыя светы Эка ці Муракамі. Беларусь жа таксама была часткай СССР. Аднак дзе пабачыць, як змяняў савецкі час беларускую душу?

І справа нават не ў тым, што ў кнізе няма беларускага «я»: у кнізе занадта выяўнае «я» расійскае. «Нашы казкі пра Іванушку-дурачка», «убогая руская кухня», «вайна і турма — два галоўныя рускія словы», Калужская вобласць, Іркуцк, Масква, Масква, Масква... Нават калі гаворка пра Беларусь, дык гэта Беларусь вачыма кагосьці адстаронена: дзяўчынкі, якая пасля лагера і сіроцкага дома вярнулася ў вёску, дзе жыў яе бацька-асаднік. Або вось яшчэ некарэктная карцінка пра беларусаў: «Немецкие мотоциклисты въехали в город. Какие-то люди в вышитых сорочках встречали их с хлебом-солью. С радостью»...

Кніга звышякасна напісаная. Аўтарка ўклала ў яе дзесяцігоддзе працы, усю інтэлектуальную моц, усё сваё фантастычнае веданне рускай класікі, філасофіі, душы. Кніга зацягвае, як толькі могуць зацягваць добра расказаныя гісторыі. Але што новага яна адкрывае? «Мы развітваемся з савецкім часам» — піша аўтарка ў прадмове. Хто гэтыя «мы»? 30% насельнікаў сённяшняй Беларусі ўжо ў савецкім часе не жылі. Яшчэ працэнтаў 15 — запомнілі яго раннімі дзіцячымі ўражаннямі. Як кажуць сацыёлагі, лічаныя працэнты беларусаў сёння настальгуюць па СССР.

Найвыразнейшы беларускі маркер ёсць у канцы: Плошча-2010. Распавядае студэнтка: яны спрачаліся ў інтэрнаце, ці варта ісці, ішлі на Плошчу, пасля было затрыманне, турма, касыя позіркі аднавяскоўцаў... Гісторыя ў дэталях паўтарае ранейшыя, прамоўленыя ад імя «савецкіх людзей»: пра кухоннае дысідэнцтва, жорсткасць савецкіх турмаў, даносы, якія пісалі суседзі ў НКВД.

Выходзіць, і новае пакаленне беларусаў — гома саветыкусы. Але што гэта за звер такі? У чым яго ўнікальнасць? Чаму не назваць яго паводзіны натуральнай рэакцыяй чалавека і супольнасці на ўціск і тэрор з боку ўлады? Няўжо іначай рэагавалі ў Чылі часоў Піначэта? У Іраку часоў Хусейна? У Паўночнай Карэі дагэтуль?

Але, калі прызнаць, што няма ўнікальнага гома саветыкуса, давядзецца прызнаць, што ніякай асобнай савецкай «духоўнасці» таксама не было. А як жа так? Ад чыйго імені тады прамаўляць «мы» і са скрухай пісаць, што «сёння духоўнасць памерла, затое дзвесце відаў кілбасы»? У чым была духоўнасць? Бясправнае жыццё, рабская праца 90 працэнтаў насельніцтва? Халтура ўсюды? А гэта ж было... Было! І вось тут узнікае пытанне да ракурсу, які выбрала пісьменніца, да падбору гісторый.



Сярод маіх аднагодкаў няма людзей, якія шкадавалі б пра страту міфічнай савецкай «духоўнасці». Не бачыў я такіх і сярод старэйшых. Людзі, якія перажылі сталіншчыну, хрушчоўшчыну і брэжнеўшчыну, бачылі на якой гнілой крывавай мане стаіць савецкі лад і савецкая мараль. А чысціня кніжных дысідэнтаў была не савецкай, а проста чысцінёй. Агульначалавечай.

«Цынкавыя хлопчыкі», «Чарнобыльская малітва» — ранейшыя кнігі аўтаркі пісаліся, калі грамадства не ведала ўсёй праўды пра Афган, пра АЭС. Што адкрывае «Час сэканд-хэнд»?

Мне яна адкрыла, што не было гома саветыкуса.

**Сяргей Мікулевіч**

# На «Еўрабачанне» ніхто не рвецца

Ужо два тыдні прымаюцца заяўкі на ўдзел у нацыянальным адборы на «Еўрабачанне-2014». Але, як стала вядома «НН», ніхто з беларускіх музыкаў дагэтуль не выказаў жадання прадстаўляць краіну на конкурсе.

«Пакуль мы не атрымлівалі заявак», — паведаміла «НН» Вольга Шлягер, кіраўнік нацыянальнага адборачнага тура «Еўрабачання».

Ці збіраецца хто-небудзь з фаварытаў мінулых гадоў паспрабаваць свае сілы?

У прадзюсарскім цэнтры «Спамаш», які падрыхтаваў да выступу на «Еўрабачанні-2013» Алёну Ланскую, пытанне яшчэ не абмяркоўвалі. «Заяўкі прымаюць да 24 лістапада, у нас ёсць яшчэ час», — паведамілі «НН» у прэс-службе.

Яскравая спявачка Гюнеш Абасава некалькі разоў спрабавала перамагчы на нацыянальным адборы. З адборачнага канцэрта 2012-га, пасля якога грымнуў скандал вакол фальсіфікацый вынікаў галасавання, Гюнеш з'ехала нават не чакаючы фіналу. Летась у «Еўрабачанні» не ўдзельнічала. Не плануе, паводле словаў прэс-сакаратара, і сёлета.

Шмат для каго сенсацыяй стаў удзел у адборы гурту N.R.M. (у фармаце трыа, без Лявона Вольскага). Тады квазінародная песня «Кузьнічка» ў фінал не прайшла. «Ідэя ўдзелу ў Еўрабачанні канструктыўная, — разважае цяперашні фронтмэн гурту Піт Паўлаў. — Удзел у «Еўрабачанні» мог бы шмат даць для краіны. З «Кузьнічкай» у нас былі рэальныя шанцы на перамогу, зараз такой песні няма, а падаваць заяўку дзеля хохмы таксама няправільна...»


Барадаты транвестыт Канчыта прадставіць Аўстрыю на «Еўрабачанні».

Відаць, пасля скандалаў, якія «разрульваў» асабіста кіраўнік дзяржавы, удзельнічаць у конкурсе па сваёй волі мала каму хочацца.

**Юрась Ускоў**

## Сцісла

### Памёр «хросны бацька» панка Лу Рыд

Ва ўзросце 71 года памёр культавы амерыканскі музыкант, былы лідар гурту The Velvet Underground Лу Рыд. Прычыны смерці невядомыя. У чэрвені 2013 спявак перанёс аперацыю па перасадцы пячонкі, аднак пасля гэтага меўся працягваць выступленні. Уплыў Лу Рыда на сучасную музыку цяжка пераацаніць. У прыватнасці, яго называюць хросным бацькам панку. Лу Рыд лічыцца адным з найлепшых паэтаў у гісторыі рок-музыкі.

### Двойчы «вораг народа»: выйшлі ўспаміны Яўхіма Кіпеля

Гэта — гісторыя Беларусі: ад падзей першага абвяшчэння БССР у Смаленску, відавочцам якіх аўтар быў, да стварэння беларускіх асяродкаў у паваенных ЗША. У сваіх успамінах — эпізодах жыцця — аўтар асобна распавядае і пра асобаў, з якімі даводзілася працаваць: У. Жылку, З.Жылуновіча, Янку Купалу, Якуба Коласа. Гэта другое выданне ўспамінаў. Першае выйшла ў Нью-Ёрку ў 1998 г. Новае выданне дапоўнена грунтоўнымі каментарамі.

## Дзе варта быць

### Вялікі выбух у малой Галілеі

У серыі «Бібліятэка Беларускага калегіюма» выйшла кніга Пятра Рудкоўскага «Вялікі выбух у малой Галілеі». Яе прэзентацыя пройдзе 5 лістапада ў кнігарні «логвінаЎ» (Мінск, Незалежнасці, 37а).

Што здарылася на мяжы «старой» і «новай» эры? Якім быў духоўны і культурны клімат у грэка-рымскім і юдэйскім свеце ў часе публічнай дзейнасці Ісуса Хрыста? Як фармаваўся Новы Запавет і як выглядаў канон веры першых хрысціянаў? Чым з'яўлялася Царква ў першыя стагоддзі? Як выглядалі дачыненні ранняга хрысціянства з элінскай, рымскай ды іншымі культурамі? Гэтым і падобным пытанням прысвечаны гістарычна-філасофскі роздум «Вялікі выбух у малой Галілеі».



# Гісторыю пішуць пераможцы

Пра кнігу Сяргея Навумчыка «Дзевяноста першы» піша **Дзмітры Гурневіч**.




У 1991 годзе, калі вырашаўся лёс беларускай незалежнасці, камуністычная большасць у Вярхоўным Савеце і кроку не рабіла без аглядкі на Маскву. Сёння, пасля 20 гадоў незалежнасці, мы так і не навучыліся жыць без Масквы. Нават незалежнасць працягваем лічыць ласкай маскоўскіх бонзаў.

Кніга Сяргея Навумчыка «Дзевяноста першы» ломіць гэтую схему і апісвае нашу найноўшую гісторыю з беларускага гледзішча. Гэта гісторыя «беларускага карнавалу» ў ХХ ст. Але мы не заўсёды маем смеласць паглядзець на падзеі 1991 года беларускім позіркам.

«Калі б не падзеі ў Маскве, то плакала б беларуская незалежнасць», — чуваць з аднаго боку. «Рана ці позна Беларусь і так бы абвесціла незалежнасць», — чутно з другога. Такія тэорыі можна будаваць да бясконцасці. Але ўсё гэта толькі здагадкі. Тым часам тыя, хто звычайна любіць дзяліць пэўныя з'явы ці працэсы на тысячы нюансаў, раптам кажуць пра адназначнасць: маўляў, самі беларусы былі б не ў стане здабыць незалежнасць. І мы ў адказ пачынаем нешта мудрыць, шукаць аб'ектывізм у гісторыі, займацца футуралогіяй і ў выніку прыходзім да высновы, што, можа, і сапраўды нам незалежнасць звалілася на галаву.

З трэцяга боку, мы маем рэальны факт — незалежнасць і яе герояў. Сутнасць справы на паверхні: гэта на патрабаванне апазіцыі БНФ 25 жніўня была склікана Сесія Незалежнасці, гэта дэпутаты ад БНФ дамагліся галасавання аб наданні Дэкларацыі аб суверэнітэце канстытуцыйнай моцы, гэта фракцыя БНФ пераконвала дэпутатаў, якія не маглі ў туалет пайсці без дазволу Крамля, прагаласаваць за суверэнітэт і забарону камуністычнай партыі.

Сяргей Навумчык на пальцах паказвае, як справы выглядалі насамрэч. Як даводзілася спрачацца з камуністамі, пераконваць іх, а часам і палохаць (як хацеў бы у выпадку са стварэннем Нацыянальнай гвардыі на плошчы Леніна 25 жніўня), каб дабіцца выніку — незалежнасці. А з другога боку бачна, як гэтыя спрэчкі, а часам і прыватныя размовы з апанентамі, давалі плён: камуністы пагаджаліся з дэпутатамі БНФ і галасавалі так, «як трэба».

Навумчык прыводзіць у сваёй кнізе бліскучую прамову Зянона Пазняка напярэдадні галасавання 25 жніўня. Лідар БНФ заклікае камуністаў прагаласаваць за незалежнасць, тлумачыць навошта патрэбен дзяржаўны суверэнітэт і што стане з краінай, калі яго не абвесціць. Прамова вартая галівудскага фільма. На плошчы перад Домам урада стаяць дзясяткі тысяч людзей, яны слухаюць жывую трансляцыю з Авальнай залы, пачынаецца стварэнне Нацыянальнай гвардыі. Пасля прамовы Пазняка адзін за другім выступаюць дэпутаты-камуністы Мачуленка, Кулакоў, Жэбрак. Яны прызнаюць Пазнякову рацыю і просяць сваіх калегаў-дэпутатаў падтрымаць прапанову БНФ і прагаласаваць за назалежнасць. Выступае прэм'ер Кебіч і таксама заклікае галасаваць за незалежнасць. У той самай зале, дзе яшчэ гадзіны таму незалежнасць была крамольным словам, гучаць апладысменты. Да заклiку Пазняка схіляецца і спікер Станіслаў Шушкевіч, які яшчэ надаўна называў незалежнасць жартам. Ён выносіць пытанне аб незалежнасці на галасаванне. А 20.12 Беларусь становіцца незалежнай дзяржавай.



Цяпер уявім на хвіліну, што ніякага БНФ няма, ніхто не склікае паседжанне Вярхоўнага Савета. Хто мае выносіць пытанне пра незалежнасць на галасаванне? Анатоль Малафееў, які падтрымаў путч, ці савецкі да мозгу касцей Дземянцей? А можа Аляксандар Лукашэнка, які ўвогуле не браў удзелу ў галасаванні?

Бясспрэчна, шанец на абвяшчэнне незалежнасці даў маскоўскі путч.

Стагоддзі паміж магутнымі суседзямі навучылі беларусаў, што найбольш мы можам дамагчыся тады, калі заходнія і ўсходнія імперыі займаюцца сваімі праблемамі альбо варагуюць. Але для таго, каб гэты шанец выкарыстаць, патрэбныя эліты ўнутры краіны. Чаго б варты быў гэты маскоўскі імпульс, калі б не было людзей, якія яго своечасова і спрытна выкарысталі? Ці хтосьці верыць у тое, што, акупаваўшы ў 1918 годзе Беларусь, немцы маглі самі абвесціць БНР без Варонкі, Бурбіса, Зайца і іншых? Ці далі б праз год бальшавікі дазвол на абвяшчэнне БССР, каб не супярэчнасць з БНРаўскімі дзеячамі?

Вольная Польшча, напрыклад, была абвешчаная на другі дзень пасля вяртання з магдэбургскай турмы Юзафа Пілсудскага. Але палякам у галаву не прыйдзе сцвярджаць, што гэта аўстрыйцы, якія яго вызвалілі з няволі, сапраўдныя героі польскай незалежнасці.

«Але ж саюз і так развальваўся на вачах. Яго б нішто не магло ўратаваць», — запярэчыць хтосьці. У ранейшай форме СССР наўрад ці мог існаваць, гэта праўда, але зменены, падшліфаваны і вымыты — мог. Перайменаванне гэтай імперыі і касметычныя папраўкі не змянілі б для беларусаў яго сутнасці — ролі васала ў такім утварэнні.

Планы рэактывацыі Савецкага Саюза былі. Навумчык гэта выдатна даказвае ўспамінамі бліжэйшых паплечнікаў Гарбачова і Ельцына. У Маскве найменш думалі пра тое, каб як мага хутчэй даць беларусам незалежнасць, адпіхнуць ад Расеі, дазволіць утварыць уласнае войска ды яшчэ вярнуць свае сцяг, герб і гісторыю. Працэсы ўцягвання Беларусі (і не толькі) у расейскую сферу ўплываў пачаліся адразу пасля распаду СССР і працягваюцца дагэтуль.

У 1991 годзе будучыня Беларусі вырашалася ў Мінску, у зале Вярхоўнага Савета. Гэта выдатна ілюструе яшчэ адзін эпізод, які адбыўся 19 верасня, падчас галасавання ў пытанні дзяржаўнай сімволікі. Да прыняцця бел-чырвона-белага сцяга і герба «Пагоня» не хапае некалькіх галасоў. Пазняк звяртаецца да дэпутата-камуніста Міхаіла Жукоўскага, які пару хвілін да гэтага казаў пра сцяг калабарантаў і катэгарычна адмаўляўся галасаваць за бел-чырвона-белы сцяг.

Пазняк: «Міхаіл Дзмітрыевіч, нацыянальная дзяржава вышэйшая за ўсялякую партыйную ідэалогію. Калі мы не будзем яе мець, не будзем мець яе нацыянальных сімвалаў, то мы не будзем мець нічога. Мы станем нічым. Я вельмі Вас прашу. Адзін раз у жыцці. Пагаласуйце за сцяг дзеля нашай будучыні. Мы ж — беларусы».

Адказ Жукоўскага: «Добра. Я прагаласую».

І прагаласаваў. Вынік галасавання: 231 голас, роўна столькі, колькі і трэба. Гісторыю, часам, можна змяніць некалькімі словамі. І менавіта так яе змянялі дэпутаты БНФ. Іншага спосабу проста не існавала, бо дамагчыся незалежнасці і пачаць будаваць дзяржаву можна было толькі галасамі камуністаў. «Тое, што камуністы падтрымалі незалежнасць, таксама робіць ім гонар», — сказаў летась у эфіры «Белсата» Зянон Пазняк.

Але «Дзевяноста першы» — гэта кніга не толькі пра камуністаў і дэпутатаў БНФ у Вярхоўным Савеце. Гэта кніга пра дзясяткі тысяч беларусаў, якія прыйшлі ў беларускі рух на пачатку 90-х. Без гэтай сілы БНФ быў бы толькі звычайнай абрэвіятурай. Гэта, урэшце, кніга пра тых (і таго), каму гэтая незалежнасць стала косткай у горле, але хто сёння карыстаецца ёю напоўніцу.

Аспрэчыць Навумчыка ім будзе вельмі цяжка. Каштоўнасць яго кнігі ў тым, што яна пабудаваная не толькі на ўспамінах, але на дакументах і стэнаграмах. Крытыкам застаюцца агульныя словы тыпу «Навумчык перапісвае гісторыю» і жартачкі «А Пазняк прыдумаў мяккі знак».

Ад 1918 года беларускія эліты дзяліліся на тых, хто бачыў будучыню краіны ў якасці расійскай аўтаноміі, і тых, хто быў за незалежную Беларусь. У 1991 годзе гэты падзел быў усё яшчэ актуальны. З таго часу змянілася шмат. Прыгадваю словы былога I сакратара ЦК КПБ Анатоля Малафеева летась на адным з дзяржаўных тэлеканалаў: «Добра, што мы паставілі на незалежнасць. Аднаўляць СССР сёння няма сэнсу».

У 1918 годзе дзеячы БНР не змаглі даць рады, бо ў палітыцы перамагае не той, хто мае рацыю, а той, хто мацнейшы. У 1991 го-дзе апазіцыя БНФ у Вярхоўным Савеце не толькі мела рацыю, але і аказалася мацнейшай за камуністычную большасць. Тыповая для Беларусі справа: перамены нашы героі заўсёды заваёўвалі авангардам.

Гісторыю, як вядома, пішуць пераможцы. Са спазненнем на 20 гадоў мы дачакаліся і сваёй гісторыі пра перамогу 1991 год.

# Гісторыя дзяцей

Павал Касцюкевіч.
Апавяданне.

**1.**

Старажытныя дзеці Беларусі верылі, што на месцы іх піянерлагера знаходзіўся канцлагер. Гэта ўскосна пацвярджалі знойдзеныя каля плота ржавыя абломкі, якія нагадвалі ці то кайданы, ці то скарыстаныя кулямётныя дыскі. Былі і больш важкія сведчанні — нялюдскія катаванні, якія цягам змены найміты-важатыя ладзілі безабаронным дзецям. Гвалтоўны пад'ём, ранішняя зарадка, манныя камякі і млосная самадзейнасць.

Дзеці не сумняваліся — катаванні і здзекі на гэтым лапіку зямлі перайшлі ў спадчыну ад больш ранніх захопнікаў. Некаторыя з піянераў даводзілі, што сам дырэктар лагера — эсэсаўскі недабітак з ай-к'ю беляша і купленым пашпартам на славянскае імя. Поскуддзю, якая ў свой час уласнаручна закатавала нямала партызанаў. Далібог! Ягоныя гэтыя начныя аблавы па тумбачках. Мітуслівыя фюрэрскія выступы на лінейках. Крываежэрныя патрабаванні заўсёды насіць панамку і не купацца ў рэчцы нават у спёку.

**2.**

Старажытныя дзеці Вавілона яшчэ за дзве тысячы гадоў да адзінабожных юдаізму і хрысціянства перасталі верыць у нехлямяжую безліч ідалаў. Да прыкладу, дзеці аніводнай хвілінкі не верылі ў багіню Іштар, чыя каменная статуя ахінала крыламі ўсё валадарства з галоўнай гарадской вежы. У адрозненне ад дарослага жыхарства імперыі, малыя вавілонцы аніківам не пакланіліся хуткакрылым пасланцам тагасвецця — мармуровым джынам. Дзеці таксама плявацъ хацелі на культ дзівосных татэмных жывёлаў, чыімі хвастатымі і рагатымі барэльефамі былі спярэшчаныя легендарныя муры.

Цяпер каланіяльныя музеі Берліна і Лондана — а менавіта яны захоўваюць большасць скарбаў вавілонскага дойлідства — наракаюць на адбітыя лапы і хвасты дзівосных жывёлаў, а таксама на гвалтоўна перарваны ў шматлікіх месцах вышуканы арнамент. Музейнікі перакананыя: вінаваты бязлітасны час і нядбальства археолагаў ды перавозчыкаў старасветчыны. О, як жа моцна тыя музейнікі памыляюцца!

Гістарычная праўда ў тым, што плітачкі яшчэ за часамі Навухаданосара скалупалі мясцовыя падшыванцы. Старажытныя дзеці Вавілона былі перакананыя, што легіёны фальшывых ідалішчаў не дапамогуць, а шчасце і вечнае збавенне прынясе адна-адзіная рэч — паліваныя плітачкі. У іх вачах гэтыя прастакутнікі лічыліся адной і адзінай вартай пакланення рэччу. Рэччу, за якую любы малы быў гатовы прадаць душу і рызыкнуць целам. Бо плітачкі можна цягаць у кішэні або мяняць на здохлага жука. Выхваляцца іх калекцыяй перад зачараваным сябрам або пры іх дапамозе заваёўваць сэрца суседскіх дзяўчатак. А яшчэ гуляць у «чу» і «бабку».

Раз'юшаны Навухаданосар паабяцаў чвартаваць любога, хто пашкодзіць святарную браму або муры галоўнай вуліцы (якая, мы ведаем, называлася праспектам Хай Здохнуць Усе Нашыя Ворагі). На гарадскім пляцы нават паўстала жахлівая дыба. Але дзе ты каго зловіш! Каго з малалетніх архараўцаў хоць калі ў гісторыі спынялі суворыя забароны і смяротнае пакаранне?

**3.**

Вось ён, я. Пішу ўсе гэтыя звесткі пра старадаўнія падзеі ў шматпавярховіку са шкла і бетону. Амаль дарослы чалавек з недарэчным імем — ці то Ігнацый, ці то Макарый. Захраслы ў кішках бясконцага горада будучыні. У офісе са сляпучым люмінісцэнтам сярод разлапістага лабірынта мініяцюрных кабінецікаў. На стале — фаянсавы кубак сублімаванай кавы з пыхлівым напісам «I love sex».

Як жа так сталася, што гэтае магутнае дзіцячае княства ад акіяна да акіяна рассыпалася ўшчэнт? Як здарылася, што мы не адстаялі нашых найвялікшых набыткаў і дасягненняў? Зніклі ў невараць нашы крыжовыя паходы, нашы бунты і паслядоўная нязгода з варожымі цывілізацыямі дарослых. Наш адпрыродны гонар, праўдалюбства і непаслушэнства. Псаваць, разбіваць, ганіць, ганьбіць, пляміць, заліваць бацькоўскія дываны згушчонкай і стэарынам. На якім этапе мы загрузлі ў распусце парадку? Як аддалі святыні псам?

Люты, бязлітасны вораг спярша пакроіў вялікае княства, потым начапіў на нас свой нявольніцкі гарнітур-«тройку» і ўрэшце падвесіў за гальштук вясёленькіх адценняў. Як чалавек з цвярозай развагаю пагаджаецца на свой першы працоўны дзень?

Але досыць смаркатых цюхцяўмухцяў! Пакуль я жывы і ў стане, не стану маўчаць. І як нельга адрадзіць колішнюю веліч княства, дык я, прынамсі, маю распавесці ўголас пра колішняе яго ззянне, перадаць трапяткі досвед далей. Я, апошні грамадзянін вялікага княства, буду занатоўваць праўдзівую гісторыю майго люду. Па кавалачку збіраць мазаіку чорных прагалін. Я адно хачу, каб ты, нашчадак і спадкаемца, пра нас не забыўся.

Запамінай, дружа: адна чырвоная плітачка каштуе дзве шэрыя, чатыры чырвоныя — адну жоўтую, і дзесяць жоўтых — адну блакітную. Блакітная гэтак цэніцца, бо толькі на ёй — і ні на якой іншай плітачцы! — вавілонскі хлопчык ці дзяўчынка трывала ловяць у фокус прастакутнага экрана відзеж, як у царскай спачывальні голы Навухаданосар трыма кашчавымі пальцамі засяроджана калупаецца ў носе.

# Аднойчы ў Лошыцы

Аляксей Бацюкоў. Навэла.

Давайце, я зраблю грэх, напішу дзеля толькі радасці сваіх вачэй. Гэта будзе псеўдакартасар, гэта будзе псеўдадэтэктыў, а можа, эратызаваны навуковы артыкул. Гэта будзе, вядома, распавед ад першае асобы, каб словы вырываліся самі, перапляпаючы тэкст з адчуваннямі і чаканнямі нутра. Напачатку будзе таямнічая і загадкавая смерць — зарэзаны мужчына ўцісnуў плячмі жыта. Залатыя хвалі разбіваюцца аб чорны правал. Цела на сярэдзіне поля. Нагрэтая сонцам рука ледзьледзь варушыцца, сама вядзе асадкай па паперы, накрываючы выгнуты аркуш шэрагамі перакрэсленых і яшчэ не перакрэсленых словаў, быццам цвікамі прыбіваючы аголенае ўкленчанае цела да пісьмовага стала, але аркуш адсунуты ўбок. Спавітыя сінімі пражылкамі, яе бледныя пальцы ледзь чутна кранаюць маю руку, іх прахалода п'е цяпло з маёй далоні, з запясця, пальцы саслізгваюць на локаць, затрымліваюцца на плячы і ўпіваюцца ў валасы. Яна кранае мае вусны, пакуль я, заплюшчыўшы вочы, шукаю яе водар. Ад яе пахне жанчынай, і сонцам, і малаком. Цела раптам патыхае агнём, вабіць за сабой, за мяжу, але я прашу хвіліну. «Дазволь, я дарэжу мужчыну ў жыце,» — мая рука адпускае яе плячо і цягнецца да асадкі, дзесьці на ўскрайку стала затрымаўся аркуш. «Мужчыну?» — яна кідае позірк на паперу, хутка знаходзіць сярод нагрувашчаных радкоў і думак галоўнае — яго імя. Мы сустракаемся вачыма. Цяпер позірк зусім іншы, гэта ўжо не яна. Вусны яшчэ не выдаюць тае змены, нават здрады. Яны ўсміхаюцца, але я бачу і вочы, і я бачу ў вачах: «Я не дам табе яго забіць». Яна хапае мяне за вопратку, адной рукой вырывае з крэсла (А дзе другая рука? Ці не яна зараз камячыць аркуш?). Я піхаю яе на канапу. Так і ёсць: аркуш зацяты ў далоні. Выкрытая, яна ці не чырванее ад злосці. «На! — аркуш ляціць мне ў твар. — Ён не патрэбны мне!» — «І ён табе ніхто?» — «Ніхто!» Ніхто. Гэта не пра аркуш, гэта пра яго, яшчэ жывога сярод залатых хваляў. Камяк паперы коціцца пад ногі. Цяпер хвалям абступіць іх, прыхаваць, закрыць ад усяго свету і ад мяне. Цяпер жыта будзе біцца іх рухамі, а сонца заліе аголеныя целы жоўцю. Цяпер яны будуць ляжаць там вечна. Разам. Утомленыя, не прачнуцца, калі побач заківаецца разведзенае калоссе і праз гарачыя сцябліны да іх пацягнуцца рукі. Яны будуць ляжаць вечна і ціха, нерухома, не расплюшчваючы вачэй, не зрушыўшы паветра подыхам.

Я выняў рукі з калосся, разгладзіў аркуш і схаваў яго ў стол. Наталенне, помста, цела яшчэ лёгка дрыжыць, кроў тонкімі штуршкамі перацінае скроні. Пайшоў, пакідаючы за спінай шоргат поля, шоргат асадкі паўз паперу. Не паўз, а скрозь яе, шоргат колераў на белым тле, і, асабліва ярка — колер крыві і крыві водар, перамяшаны з водарам распаленых целаў, знойдзеных і зарэзаных на самым ускрайку стала, перамагаючы немач стомленай рукі і летнюю задуху пустой кватэры.

**Аляксей Бацюкоў**

Пісьменнік, жыве ў Магілёве. Працуе дырэктарам Музея гісторыі Магілёва, ініцыятар вяртання ў краіну арыгінала Статута ВКЛ.

## БАСКЕТБОЛ

### «Цмокі» — ЦСКА




**Мінская каманда 3 лістапада ў рамках Адзінай лігі ВТБ** прымае на «Мінск-Арэне» ЦСКА. Армейцы з Масквы — адна з найлепшых каманд Еўропы. Відовішча мае быць цікавым. Пачатак а 16.

## ХАКЕЙ

### «Дынама» — «Адмірал»

**1 лістапада** на «Мінск-Арэне» пройдзе чарговая гульня ў рамках Кантынентальнай хакейнай лігі. Мінскае «Дынама» прымае ўладзівастоцкі «Адмірал». Пачатак а 19.

## ФУТБОЛ

### Тур 29

**2-3 лістапада** пройдуць чарговыя матчы чэмпіянату краіны па футболе. **У суботу** сустракаюцца:
«Дынама» (Мінск) — «Нёман» (Гродна);
«Гомель» — «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна);
«Дынама» (Брэст) — «Нафтан» (Наваполацк).
**У нядзелю:**
«Дняпро» (Магілёў) — «Славія» (Мазыр);
«Мінск» — «Белшына» (Бабруйск);
БАТЭ (Барысаў) — «Шахцёр» (Салігорск).

## КАНЦЭРТЫ

### Neuro Dubel

**31 кастрычніка а 21-й у Jack club (Няміга, 12)** — канцэрт гурта Neuro Dubel.

### BosaeSonca

**31 кастрычніка а 19-й у «Графіці» (зав.Калініна 16)** — BosaeSonca з прэзентацыяй акустычнага live-альбома «Адпусці».

### Іван Кірчук

**1 лістапада а 19-й у ДК Прафсаюзаў** —Іван Кірчук з праграмай «Дарожка мая…»

### Д.П.Б.Ч.

**2 лістапада а 19-й у клубе «Цэнтр» (пл.Кастрычніцкая, 1)** — прэзентацыя новага альбома гурту NRM «Д.П.Б.Ч.».

### Макс Корж

**2 лістапада на «Мінск-Арэне»** канцэрт Макса Каржа.

### Віталь Стахіевіч

**3 лістапада а 19-й у Беларускай дзяржаўнай філармоніі** — канцэрт Віталя Стахіевіча (Беларусь-Галандыя). Прагучаць творы Гайдна, Шуберта, Абеліёвіча, Шапэна.

### Піт Паўлаў

**6 лістапада а 19-й у рок-бары «Крылы» (Даўгабродская, 24)** — творчая сустрэча з Пітам Паўлавым напярэдадні дня народзінаў музыкі.

### Аляксандр Баль

**7 лістапада а 19-й у к/з «Мінск»** — канцэрт Аляксандра Баля.

### Дзяніс Балаханаў і Юрась Ускоў

**10 лістапада ў «Крылах» (ДК МТЗ)** — вялікі супольны блюзавы канцэрт з удзелам музыкаў гурту «Big Daddy Blues» з выкананнем блюзавай класікі 30-50-х гадоў.

## ВЫСТАВЫ

### Два бакі свету

**Да 9 лістапада ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47)** працуе выстава графікі Катажыны Гаўрых-Алендзр і малюнку Ежы Таліка «Два бакі свету».
«Свет — гэта не толькі планета, зямля, напрамкі падарожжаў. Свет — гэта пачуцці, меркаванні, думкі. Для мастака свет — гэта неабходнасць расказаць тое, што з ім адбываецца. Недзе ў сабе, гледзячы ўнутр свайго побыту і звонку, азіраючыся навокал і прагнучы назіраць, пазнаваць тое, з чым яму давялося сутыкнуцца».

### Непатрэбнае свяцтва

**Да 17 лістапада ў гістарычным музеі** працуе выстава, прысвечаная тэме памяці і фатаграфіі. Ільвіную долю асабістых фотаздымкаў мы гатовыя выкінуць, закінуць, забыць… А на гэтых фотаздымках — цэлае пакаленне, якое сышло ў нябыт. Сярод іх твары прабабуляў і прадзядуляў, іх бліжэйшых сваякоў…

## ТЭАТРЫ

### 31 кастрычніка

**Юнага гледача** — «Брык і Шуся шукаюць лета»
**Беларускай драматургіі** — «А мне не сорамна!..»
**Купалаўскі** — «Выкраданне Еўропы, альбо Тэатр Уршулі Радзівіл»
**Оперы і балета** — «Спартак»
**Беларускай драматургіі** — «Бегчы з Эльсінора, альбо Гамлет нававарат»




1 лістапада ў Мінску распачнецца XX кінафестываль «Лістапад», асноўны конкурс якога сёлета атрымаўся надзвычай цікавым. «Наша Ніва» адабрала пяць фільмаў, якія варта наведаць.

### «Параджанаў»

**Украіна/Францыя/Грузія/Арменія**

У аснове ўкраінска-французскай стужкі лёс сусветна знакамітага рэжысёра Сяргея Параджанава, чыя творчасць назаўжды змяніла савецкі кінематограф. Па сфабрыкаванай справе Параджанаў трапляе ў турму, але і там застаецца нязломным.
Фільм рэжысёраў Сержа Аведзікяна і Алены Фіцісавай стаў адной з самых гучных прэм'ер 2013 года ва Украіне. Менавіта гэтую стужку Оскараўскі камітэт абраў для спаборніцтва за прэмію.

### «Географ глобус прапіў»

**Расія**

Фільм Аляксандра Велядзінскага «Географ глобус прапіў» з Канстанцінам Хабенскім у галоўнай ролі ўжо прайшоў на большасці ўсходнееўрапейскіх фестываляў і атрымаў выключна пазітыўныя водгукі ад кінакрытыкаў. Гісторыя біёлага з Пярмі, які ідзе працаваць настаўнікам геаграфіі, у першую чаргу падкупляе тым, што паказвае жыццё самага звычайнага настаўніка, які сябруе з вучнямі, мае канфлікт з дырэкцыяй, п'е віно з сябрамі.

### «Роля»

**Беларусь/Расія/Фінляндыя/Германія**

Фільм Канстанціна Лапушанскага «Роля» — гісторыя акцёра, які таемна перабіраецца з Фінляндыі ў СССР, каб сыграць сваю галоўную ролю: падмяніць нябожчыка чырвонага камандзіра.

### «Калі ў Бухарэсце надыходзіць вечар, альбо Метабалізм»

**Румынія/Францыя**

Рэжысёр Карнелій Парумбою ўжо паспеў засвяціцца ў Канах са сваім дэбютным фільмам. Трэцяя стужка, прысвечаная закаханасці рэжысёра ў актрысу, па словах кінакрытыкаў, нагадвае французскія іранічна-лірычныя гісторыі.

### «Вечнае вяртанне»

**Украіна**

Адказаць на пытанне, чаму варта ісці на гэты фільм, можна проста назваўшы імя і прозвішча рэжысёра — Кіра Муратава. Сюжэт фільма круціцца вакол гісторыі двух былых аднакурснікаў.

**Юрась Ускоў**




### 1 лістапада

**Юнага гледача** — «Казка чароўнага лесу»
**Юнага гледача** — «Сіні аўтамабіль»
**Оперы і балета** — «Сэрэнада. Шэсць танцаў»

### 2 лістапада

**Юнага гледача** — «Тры парсючкі»
**Беларускай драматургіі** — «А мне не сорамна!..»
**Оперы і балета** — «Чароўная флейта»

### 3 лістапада

**Юнага гледача** — «Царэўна Жабка»
**Беларускай драматургіі** — «А мне не сорамна!..»
**Оперы і балета** — «Кашчэй Бессмяротны. Шахеразада»

### 5 лістапада

**Оперы і балета** — «Тамар. Шахеразада»
**Юнага гледача** — «Міхалова зямля»
**Беларускай драматургіі** — «Бегчы з Эльсінора, альбо Гамлет нававарат»

### 6 лістапада

**Беларускай драматургіі** — «Сталіца Эраўнд»
**Юнага гледача** — «Аднакласнікі»
**Оперы і балета** — «Вітаўт»

### 8 лістапада

**Оперы і балета** — «Мадам Батэрфляй»
**Беларускай драматургіі** — «Адэль»

## КІНО

### Кроў і кішкі

Мачэтэ забівае
**Рэжысер:** Роберт Радрыгес.
**У ролях:** Дэні Трэха, Мішэль Радрыгес, Антоніа Бандэрас, Джэсіка Альба, Эмбер Хёрд, Сафія Вегара, Мэл Гібсан
ЗША, Расія, 107 хв.

Грозны мексіканскі забойца Мачэтэ праз удзел у разборках наркакартэляў трапляе ў рукі шэрыфа. З пятлі яго ратуе сам прэзідэнт ЗША, маючы на мэце складанае і далікатнае заданне: знайсці ў Мексіцы вар'ята-рэвалюцыянера Мэндаса, што задумаў запусціць ракету ў Вашынгтон. За ўдалае выкананне абяцаюць забыцца на папярэднія грахі Мачэтэ, а для прыкрыцця выдаюць агента — сэксапільную бландзінку міс Сан-Антонія. Аднак гэта толькі адзін бок справы, і ў Мексіцы Мачэтэ чакае неспадзяванка: ракету Мэндасу падарыў мільянер-навуковец, у якога свае планы наконт зямной цывілізацыі...
Фільм зняты ў жанры крывавага трэшу, на якім спецыялізуецца Радрыгес. Сюжэт балансуе на мяжы тупога і смешнага вар'яцтва. Злачынцамі аказваюцца ўсе, хто з'яўляецца ў кадры: банда ваяўнічых прастытутак, прынцыповы шэрыф, навуковец, які можа прадбачыць будучыню, і нават прэзідэнт, які легалізуе зброю і марыхуану. Хапае крывавых, жорсткіх забойстваў, якія выглядаюць, вядома, ненатуральна. Адметнасцю жанра з'яўляецца гумар, які тут мяжуе з бяздарным глупствам. Людзям са слабымі нервамі не варта глядзець гэты фільм. А таксама тым, хто чакае хоць трохі інтэлектуальнага змесціва, — яны будуць расчараваныя. Бессэнсоўную трэшавасць не паляпшае і суперзорны акцёрскі састаў — відаць, прадусары планавалі гэтым выратаваць фільм, прыдумляючы новых герояў.

**Настасся Уласава**



# Аляксандр Ермаковіч: «Знойдзем рэзерв, як закруціць гайкі»

Грамадскасці быў прадстаўлены новы галоўны трэнер БАТЭ.

На прэс-канферэнцыю Аляксандр Ермаковіч прыйшоў у блакітнай кашулі, пад колер вачэй. Выглядае ўсё яшчэ няўпэўненым. Не адразу прывыкаеш да такой цікавасці. Да гэтага Ермаковіч паспяхова знаходзіўся за не самай шырокай, але вельмі надзейнай спінай Віктара Ганчарэнкі. Цяпер Віктар Міхайлавіч спрабуе паладзіць з французам Джабрылэлем Сісэ і іншымі зоркамі краснадарскай «Кубані». Барысаўскае гаспадарства ж пакінутае на Аляксандра Ермаковіча.

Новаму рулявому 39 гадоў. Ён нарадзіўся ў Лунінцы. Прафесійную кар'еру пачынаў у славутай «Атацы-Аўры». Больш вясёлай каманды ў Беларусі не было ніколі. Узначальваў яе харызматычны Якаў Шапіра, на жаль, ужо нябожчык. Кажуць, у Шапіры не было вялікіх футбольных ведаў, але больш тонкага псіхолага ў айчынны футбол не ведаў. Практычна ніхто з той «Атакі-Аўры» не згубіўся.

Ермаковіч, як і многія іншыя аднаклубнікі, перабраўся ў БАТЭ. Разам з барысаўцамі ён прайшоў шлях ад першага чэмпіёнства ў 1999 да першага ўдзелу ў групавым этапе Лігі чэмпіёнаў у 2008. Якраз у той год Ермаковіч і скончыў кар'еру, перайшоўшы на трэнерскую працу.

У БАТЭ пераемнасць ужо ўвайшла ў культ. За 17 гадоў існавання ў клуба было 4 трэнеры. Прычым ніводны не запрашаўся аднекуль збоку. Узначальваць каманду давяралі памочніку папярэдняга настаўніка. Так было з Крывушэнкам, Ганчарэнкам, цяпер з Ермаковічам. Гэта адна з дэталяў, чаму прыхільнікі называюць БАТЭ «сям'ёй», а праціўнікі — «сектай».

Ермаковіч гуляў на пазіцыі апорніка. Ён быў добрым футбалістам, але так ні разу і не атрымаў выкліку ў нацыянальную зборную.

Прэс-сакратар БАТЭ Сяргей Дашкевіч апекаваўся над Ермаковічам. «Кіраўніцтва клуба прасіла бліжэйшыя два месяцы не турбаваць новага трэнера з просьбамі аб інтэрв'ю».

Калі казаць пра стыль паводзінаў Віктара Ганчарэнкі з журналістамі, то выцягнуць з яго нешта, калі ён не хацеў, не атрымлівалася нават абцугамі. Але дзесьці раз на год настаўніка прарывала на шчырыя гутаркі. Адну з такіх ён даў падчас анлайну на «Нашай Ніве», дзе расказаў пра бацьку — ліквідатара Чарнобыльскай катастрофы і шмат усяго іншага.

Ермаковіч быў вельмі скупы на словы. Голас у яго ціхі, даводзілася прыслухоўвацца да сказанага. Карацей, уражанне зрабіў чалавека не жорсткага. Адсюль і пытанне, а што рабіць з такім характарам, калі клубу патрэбны «наганяй».

«Паверце, знойдзем рэзерв, як закруціць гайкі», — адказаў Ермаковіч. І тут сапраўды паверылася. Абы-каму гендырэктар БАТЭ Анатоль Капскі трэніраваць сваё «дзецішча» не дазволіць.



НАСТАСЯ ХРАЛОВІЧ

Стала вядома, што прапанова ад Капскага была агучаная яшчэ ў пачатку года. Задоўга да правалу БАТЭ ў казахстанскіх стэпах.

Галоўны рэдактар «Салідарнасці» Аляксандр Старыкевіч спрабаваў даведацца, якая ж галоўная праблема барысаўскага клуба на сённяшні момант. «У нас няма асаблівых праблемаў», — адказаў Ермаковіч. На цяперашні момант БАТЭ апярэджвае салігорскі «Шахцёр» на восем пунктаў у чэмпіянаце краіны. І амаль ніхто не сумняецца ў чарговым чэмпіёнстве барысаўцаў.

Атрымаць канкрэтных адказаў аб селекцыі каманды на будучы сезон было немагчыма. Ермаковіч абыходзіўся агульнымі фразамі, гэтак рабіў і Ганчарэнка. Увогуле ж новы трэнер БАТЭ назваў Ганчарэнку трэнерам, які найбольш паўплываў на яго.

«Перад дэбютнай гульнёй у Гомелі стэлефаноўваліся з Ганчарэнкам, раіліся. Але ўсе рашэнні прымаў я самастойна», — кажа Аляксандр.

«Скажу шчыра, нам важна яшчэ ў гэтым сезоне выйсці на новы барысаўскі стадыён. Ведаю, колькі намаганняў прыкладаюць людзі, якія яго рыхтуюць». Кажуць, што сучасны звышновы стадыён у Барысаве будзе адкрыты 7 лістапада падчас гульні з «Шахцёрам». Аднак пакуль няма пацвярджэнняў.

«Мой заробак мяне задавальняе, — кажа Ермаковіч. — Ці павялічыўся ён? Безумоўна».

Такім было першае знаёмства з новым тварам БАТЭ.

**Зміцер Панкавец**

## Фотафакт



**Усё раскажа пра хакей**

У Італіі спартыўныя перадачы на тэлебачанні вядуць сэксуальныя дзяўчаты і жанчыны. Дакацілася такая завядзёнка і да Беларусі. Новай вядучай хакейнай перадачы «Овертайм» будзе 25-гадовая Вікторыя Грыб.

## Газета «Все о футболе» спыніла існаванне

23 кастрычніка ў офісе Асацыяцыі «Беларуская федэрацыя футбола» прайшла нарада з калектывам рэдакцыі газеты «Всё о футболе», на якой прысутнічалі першы намеснік старшыні АБФФ Сяргей Сафар'ян, галоўны рэдактар газеты «Прессбол» Уладзімір Беражкоў, яго намеснік Сяргей Новікаў.

На нарадзе Сяргей Сафар'ян паведаміў, што калі АБФФ 9 красавіка стала саўладальнікам «Прессбола», было ясна, што «выпускаць дзве газеты нам сэнсу няма».

У сваю чаргу Уладзімір Беражкоў зазначыў, што «Прессбол» са студзеня 2014 года пашырыць спектр сваіх публікацый за кошт укладкі-дадатку ў аўторак і пятніцу (па 4 старонкі), дзе будуць асвятляцца тэмы, якія былі шырока прадстаўлены на старонках «Всё о футболе». Гаворка аб першай і другой лігах чэмпіянату, міні-футболе, жаночым, пляжным і масавым футболе.




Такім чынам газета, якая існавала (з перапынкамі і пад рознымі назвамі — спачатку быў «Футбол Беларусі») з 1992 года, спыняе сваё існаванне.

У каментары выданню goals.by Уладзімір Беражкоў зазначыў, што дасць шанец усім супрацоўнікам закрытага выдання. Аднак рашэнне аб ліквідацыі газеты назваў «умовамі сучаснага рынку». Сяргей Новікаў назваў закрыццё газеты «непазбежнасцю». Наклад «Все о футболе» быў больш за 6 тысяч асобнікаў.

## Сцісла

**Мясніковіч: Працаваць павінны ўсе!**

«Чэмпіянат свету па хакеі — ва ўсіх сэнсах знакавае мерапрыемства. Гэта не толькі спартыўны форум. Працаваць павінны ўсе! Часу засталося не так шмат», — сказаў прэм'ер-міністр на пасяджэнні прэзідыума Саўміна.

**Ганчарэнка атрымаў першую перамогу**

... у чэмпіянаце Расіі. Краснадарская «Кубань», якую ўзначальвае беларус, перамагла махачкалінскі «Анжы» — 2:0.

**На Чэмпіянаце свету 40 зборных?**

Прэзідэнт УЕФА Мішэль Плаціні прапануе павялічыць колькасць каманд на футбольных Чэмпіянатах свету з 32 да 40. Па дзве дадатковыя вакансіі атрымаюць Афрыка, Амерыка і Азія, па адной — Акіянія і Еўропа.

**Беларуская плыўчыха спалілася на допінгу**

16-гадовая Вікторыя Мішусціна дыскваліфікаваная на 2 гады за ўжыванне забароненых прэпаратаў.

ЗП




**150-я ўгодкі паўстання Каліноўскага ў Свіслачы адзначылі пад міліцэйскім наглядам. На святкаванне прыехала каля 50 чалавек з Гродна, Ваўкавыска, Мінска. Людзі традыцыйна ўсклалі кветкі на магілу Віктара Каліноўскага, брата Кастуся, а потым прайшліся да помніка кіраўніку паўстання 1863 года.**



**У канадскай правінцыі Альберта сышоў з рэек цягнік з 13 цыстэрнамі нафтапрадуктаў. Улады змаглі пачаць абследаванне месца здарэння толькі на наступныя суткі, бо чакалі, пакуль выгарыць газ.**



**26 кастрычніка ў Гарошкаве сабраліся беларускія літаратары і аматары паэзіі, каб адзначыць дзень нараджэння Анатоля Сыса. Паэту-прароку, геніюрасстрыгу споўнілася б у гэты дзень 54 гады. На фота: паэт Сяргей Сыс на магіле свайго цёзкі.**



**Тысячы жыхароў расійскай сталіцы выйшлі на акцыю салідарнасці з палітвязнямі. Сярод сцягоў, што луналі ў Маскве, былі і бел-чырвона-белыя.**



## Анекдоты і жарты

* * *

У Беларусі нарадзілася больш прэзідэнтаў Ізраіля, чым прэзідэнтаў Беларусі.

* * *

Пуцін на сустрэчы з Януковічам кажа:

— Калі Украіна ўступіць у Мытны саюз, мы гатовыя даць вам зніжку.

— Якую?

— Расійскія каналы будуць на 30% менш паліваць Украіну.

* * *

— Тата, а што бліжэй: Месяц ці Хойнікі?

— Сынку, не дуры галавы. Глянь у акно, Месяц бачыш? А Хойнікі?

* * *

Сапраўдная незалежнасць дзяржавы — гэта незалежнасць яе грамадзян ад гэтай дзяржавы.

* * *

У цырку сын пытае ў бацькі:

— Тата, а навошта цёцю распілоўваюць?

— Каб даведацца, колькі ёй гадоў, сынок.

* * *

Іншапланетнікі, выкрадзеныя іншымі іншапланетнікамі, адчуваюць сябе не ў сваёй талерцы.

* * *

Завулак Малочны ў Мінску перайменуюць. Гэта будзе вуліца імя Звальнення Генадзія Анішчанкі.

* * *

Абяцанне «Сёння лягу раней» прыдумалі аўтары «Заўтра кіну курыць» і «Праз гадзіну вазьмуся за дыплом».

## «НН» сто гадоў з вамі

**Усе ваколіцы Мінска** былі засыпаны пракламацыямі саюзнікаў, у каторых гэтыя шаноўныя «апекуны» заклікаюць сялян да пагрому. Дужа многа пракламацый было на Камароўцы, дзе жыве жыдоўская бедната. Ёсць вядомасці, што агітацыю вядуць двое прыезжых з Кіева. Пачалі яны шырыць сваю агітацыю сярод басякоў начлежнага прытулку, абяцаючы, што ў выпадак пагрому ім можна будзе пажывіцца жыдоўскім дабром.

**«НН». №44. 1913.**

**Зняважальная пасадка Хадаркоўскага** не пакідае сумневаў: Пуцін хоча такую Думу, якая магла б змяніць расейскую канстытуцыю. Не факт, што ён яе атрымае. Ні рэгіянальныя лідары, ні гіганцкія карпарацыі ад такога праекта не будуць у захапленні. Але само жаданне паказальнае.

**«НН». №40. 2003.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Наста Бакшанская
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8055. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 29.10.2013.
Замова №4362.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 13040